Другое чытанне для
дзяцей беларусаў.
Напісаў Я. Колас.
Перагл. і прадмову прыпісаў
Л. Сеўрук. Пбг, 1909.

„Усякае Божае стварэнне цягне штось да роднаго сметніка“ сказаў гадоў 50 с паходам таму назад адзін беларус у напісанай ім ксёнжачцэ. Як жывеш на сваёй роднай старонцы, то здаецца, што „ўсюды добра, гдзе нас нема“ а як здарыцца табе доўга не бачыць ні роднаго поля, ні сенажаткі, ні волікоў, ні сваіх кустоў, ні старае саломяннае страхі, то так пацягне цябе да дому, у маленькую цёмненькую хату, кругом каторае цвіце чырвоны мак і гудуць працавітые пчолкі. На свеці шырокім многа е ўсякіх вялікіх гарадоў, у тых гарадох многа разумных і багатых людзей, і ядуць то гэтые людзі смачна, і убраны ены хораша, але табе серод іх чагось як бы бракуе. І сам сабе дзівішся неяк: первей ніколісь цягнула цябе пабачыць людзей, паглядзець свету, набрацца розуму, паспытаць хоць крыху навукі, а цяпер нудна стала штось табе небараку, што не бачыш ты сваёй вясковай вуліцы, асабліве у нядзелю, не слышыш звону старэнькае цэркаўкі серад села, не угледзіш пачлежнікаў кале агню ў ціхую летнюю ноч, не чутно табе песьні жанцоў, каторые ідуць с поля...

Хоць бы певень закрычаў, будзючы касцоў на работу, або завыла сабака, пачуўшы воўка.

Кепска былоб табе саўсім, каб ты не меў кале сябе у скрынцы ксёнжачкі, у каторай на тваёй роднай мове апісане ўсе, што ты бачыў і чуў на сваёй роднай старонцы.

Бярэш ў рукі ксёнжачку і здаецца табе цяпер нічога ня трэба: перэд табою як жывые стаяць і касцы, і начлежнікі і жанцы і сенажаткі і палеткі і лесы і кароўкі з бразготкамі на шыі і целята і авечкі, скрыпяць вароты, скрыпяць очэпы калодзезёў... і ты саўсім як бы пабыў на сваёй роднай старонцы, адвёў, як кажуць, душу. Разам з гэтым ты сваёю душою пачуў, што значыць родная мова, напісаная на паперы, надрукованая у ксёнжцы. Цяпер ты добра ведаеш, як кепска робяць тые, што не толькі не шанують сваёй роднай мовы, але нават цураюцца, саромяюцца яе. Украінскі песняр Шеўчэнко не дарам казаў да землякоў:

„Учыцеся, браты мае, учыцеся, чытайце,
І чужое пазнавайце і свайго не цурайцеся!“

*Л. Сеўрук.*

Пецярбурх—чэрвеня (юня) 23 дня 1909 г.

1

# Весна.

## I.

Якi пекны слаўны дзянёк! Выйдзем, дзеткi, на вулiцу, на Божы свет. Паглядзiм, паслухаем. Можэ чаго i навучыць нас гэты Божы свет.

Пачарнеў на полi снег, а на ўзгорках сталi паказывацца чорные лапiнкi, лысiны. Па вулiцах пацяклi равочкi каламутной вады. Весела бягуць яны разоркаю с поля праз двор, блiшчаць и срэбрам перэлiваюцца на сонейку. Цякуць яны i ўсё бо́льшаюць. Выходзiць с хаты гаспадар. Бачыць, вада цiкуе на яго хлевец. Не, галубка! не чэпай будовы. Там стаiць авечэчка, кароўка. Iдзи сабе далей. И гаспадар бярэ рыдлёўку i пракопывае ёй дарогу. А водэнька закаламуцiцца яшчэ больш i пабяжыць далей. Па дарозi сустрэчае яна другi гэтыкi самы равок. Сустрэнуцца, забулькаюць нешта весёленькае адзiн адному, сальюцца i побягуць далей разам. Iх сустрэне iзноў новы равок, а там, пазiраеш, прыстане i чацвярты, i пяты. I ўсе яны злiваюцца: разам i весялей и лягчэй ваеваць с тымi парогамi, которые загараджаюць iм дарогу. I нiкого яны не крыўдзяць. Сустрэнуць малюсенькi равочэк, такi малюсенькi, што цячэ ён, як слёзка, па капельцы. Мардуецца, бедны, працуе над кусочкам лёду, што загародзiў яму сцежэчку. Збiрае ўсе сiлы i з вялiкiм трудом ледзве-ледзве скоцiць нягодны кусочэк лёду i с такою гэта радасцю злiваецца с перэвалам! А перэвал ахвотне бярэ с сабою i яго працу. I вот па крысе, по маленьку перэвал перэходзiць ужо ў рэчку. Шумiць, рэве у полi. Ён так ўжо акрэп, што можэ пакацiць i камень.

Бачыце, дзеткi, як расце сiла вады.

## II.

А сонцэ дзень ата дня ўсё вышэй и вышэй ходзіць па небі; усё цяплей і цяплей сагрэвае яно землю. Плачэ зіма, льлюцца яе халодные, каламутные слёзы. Растае́ снег, покідае паля. Не хочэцца яму уступіць места цяплу і свету. З гор злазиць ён у лагчынкі, ў балота, ў лес. Не схаваешся, браце, ат сонца, усюды яно знайдзе цябе. А сонейко так ласкава, так хо́рашэ пазірае на землю, як матка на сваё дзеця. Заглядае яно ўсюды: і ў бедную мужыцкую хатку, гдзе так не прыбрана, бедна, нявесёла; і на пешчаную горку, і ў лагчынку, гдзе думаў снег найці сабе прыпынак; і ў лес, і на луг. Усюды льецца яго шчыры свет и цяпло; нігдзе не найдзе сабе пакою снег. Многа работы залатошу сонейку у раннюю ве́сну. Доўга трэба воеваць яму з зімою. Многа снегу з'есць яно за дзень, а там, пазіраеш, у ночку падымуцца хмуркі, павее вецер с халоднаго боку і закрые ізноў усю землю снегам, ізноў дасць работы для сонца. Але сонцэ не бядуе. Прыгрэе ў дзень, і снег прападае. І так яно працуе цэлы месяц, пакуль ня згоніць з зямлі сляды халоднае зімы. І ваюе яно с цьмою і холадом, як ваюе і чэлавек са злом і несправедлівасцю.

## III.

Ўжо снег злез увесь з зямлі. Толькі на лузі блішчыць яшчэ лёд і снег. Моцна спіць рэка, крэпка закаваў яе мароз. А перэвальчыкі не дрэмлюць. Шумяць яны ў поли, бягуць к рэчцы і пачынаюць будзіць яе.

Уставай, уставай, рэчэнька!—шумяць перэвальчікі:— скінь сваі ковы, выйдзі с турмы і глянь на свет Божы. Пагладзі, як свеціць сонцэ. Мы нясём табе вясёлую вестачку: весна ідзе, ідзе новае жыцце.

Моцна спіць шырокая рэка. Глядзіш і здаецца, што яна мёртва. Але гэто толькі здаецца. Под ковамі лёда ідзе работа, кіпіць жыццё. Жыве рэка.

А перэвальчыкі не перэстаюць бубніць і крычаць пра новае жыццё. На лёдзі там і сям паказаліся палонкі, прагрэтые сонцэм. Варушыцца рэка, падымаюцца яе грудзі. Чуе і яна ўжо вясну новаго жыцця. Трасе яна сваімі дужымі плечамі, і лёд покае, трэшчыць. Не здзержаць рэкі гнілому ланцугу расколатаго лёду. Прабіваецца яна на Божы свет, выходзіць з берэгоў, ломіць і крышыць усё, што хочэ стрымаць яе волю.

А крыги—астатак холада, чым запынено было жыццё Божаго света, з глухім шумам і воем, як дзікіе зверы, злосна скрыгічуць старымі гнілымі зубамі, як праціўнікі шчасця людского.

## IV.

А на берэзі стаіць цэлая куча народу. Тут і старые, і маладые, мужчыны, і жонки, і дзеці. Пазіраюць яны на рэку, на крыгі, што го́рамі ходзяць на грудзях прачхнуўшаеся вады. Любіць народ наш пазіраць на разліў ракі. Цэлы дзень крычаць дзеці, бегаюць па вуліцы глядзець на перэвальчыкі, паставіць млынок і пазіраць, як круціць яго водэнька.

## V.

Гуляйце, дзеткі! разумна гуляйце, прыглядайцеся да жыцця Божаго свету; нехай вучыць ён вас, як жыць, як зрабіць вашу сілу разумнаю сілаю, каб непрыяцелі вашы не здалелі вас, не пабілі вас у вадзіночку. Цяпер ваш час, гуляйце, набірайцеся сілы. Нехай шчырэ свеціць вам сонцэ, нехай не зарастае дарога ваша, дзікою травою,

як зарасла дарога вашых бацькоў. Нехай шырэй і далей пазірае вока ваша но Божы свет, на самых сябе.

---

## Задачка.

Ўспомніце восень, тую восень, што вы добрэ знаеце, і вясну і пастарайцеся прыпомніць тые думкі, каторые радзіла восень у вашым сэрцы, і думкі, што навеяла вам весна.

Чаму думкі асенніе не падобны на думкі вясны?

---

## Прылёт птушэк.

Ціхая раніца. Сонейко толькі што ўзышло. У полі яшчэ ляжыць снег. Толькі ўзгоркі чарнеюць. Лужынкі спягнуліся за ноч лядком. Але ўжо чуваць—весна, і ўсё пазірае па-вясеннему.

Вышэў маленькі Ясь на двор. Весела так яму, лёгка на сэрцы. Прыгрэе зараз сонцэ, добра будзе гуляць на дварэ.

Ся! Што-то званіць у небе тоненькім срэбраным званочкам? Так хороша, так міла,—душа замірае! Ясь прыслухаўся. Не відаць ничога, а ў небе ціха разліваецца тоненькая песенька, як грае хто на срэбраной дудачцы. Гэта жаваранак! І так весела Ясю, здаецца, каб льга было, пацалаваў бы мілую птушэчку. Галубка! Яна ўжо вярнулася з далёкае старонкі у наш бедны край і ў ясным небе залівaецца дзіўнаю песняю.

— „Тата! тата! чуеш жаваранка“.

Бацька Яся прыслухаўся.

— „Але жаваранка. Ну, зáраз, брат, і шпак прыляціць, а там і бусел, а за ім і ўсе птушкі“.

Рад Ясь, што першы пачуў ён жаваранка і пабег хваліцца сваім сябром. Дзеці выходзілі на двор слухаць першую песню вясны. І ім было весела.

— Эх, дзеці! Ня скора яшчэ весна,—казаў хто-нібудзь старэйшы.

Дзеці не любілі слухаць такіе рэчы. Яны любяць вясну, яны любяць, каб гаварылі ім аб вясне. А часам і праўда захаладае; дзеці кажуць,—саўсім не холадна; не толькі не холадно—горача нават.

Кожную новую госцю-птушку дзеці сустрэчаюць з радасцю,

Чэрэз некалько часу прылетае шпак. Халадно, туман, а ён мала дбае. Спевае на ўсё поле вясёлые песні, седзючы гдзе-нібудь на голай бярозі, як бы і холаду яму німа.

У канцы марца ўжо збіраецца шмат птушэк. У лесі спеваюць дразды, лесные жаваранкі, а па балоце важна проходжваецца бусел. Па стрэхах бегаюць шустрые беларудые сытаўкі *), трасуць сваімі доўгімі хвастамі.

А выйдзеш у вечэр на двор—крычаць качкі, жалобно стогнуць кнігі **); як у кадушку грукае негдзе на возеры бугай. Розные галасы поўняць воздух, усё спевае і радуецца.

## Песня ластаўкі.

Я саўю гнядо пад стрэхай
Бедной хаты мужыка;
Буду шчасцем і уцехай
Гарэмыкі—бедака.

*) плиски.
**) книгауки—чайки.

Буду я над беднай нівай
Песні раніцэй спеваць
І ат мошкі, ат шкадлівай
Буду быдла пілнаваць.
Сяду ў поўдзень я на клеці
І хваліць я буду труд...
Не ганяйце ж мяне, дзеці,
Дайце, мілые, прыют.

---

## Весна.

Йдзе весна ўжо, дзякуй Богу.
Згінуў снег с сырой зямлі;
Папсавала гразь дарогу,
Перэвалы загулі.
Сонцэ грэе, прыпекае.
Лёд на рэчцы затрашчаў.
Вецер цёплы падувае,
Хмар даждлівых ён нагнаў.
Вось і бусел паказаўся,
Гусі дзікіе крычаць;
Шпак на дубі раскрычаўся,
Жураўлі ужо лецяць.
І зіма, як дым, прапала;
Зеленеюць луг, паля.
Як ад бома ачуняла
Наша родная земля.

---

## Весна на Палессі.

Свішчуць птушкі над балотам,
Аж гамоніць лес і гай,
І далёко за чаротам *)
Бухнуў ў возеры бугай.
    Па азёрах пашлі крыгі...
    Пэрэвалы аж гудзяць.
    Над балотам стогнуць кнігі.
    Жураўлі ў гары крычаць.
Аж душа мая святлее,
І спеваць я зноў гатоў.
Рады ўсе, што сонцэ грэе,
Што нема больш халадоў.

---

## Разліў Нёмана.

Грымяць крыгі, шаруюцца, ўзбегаюць одна на одну і з глухім шумам разбіваюцца, крышацца. Вышоў Нёман з берэгоў, заняў увесь луг. Вада і вада, як скінуць вокам. На одным берэзе відны ўзгоркі, на другім — лес. Вот плыве шырокая, доўгая крыга. На ёй стаіць крыж з лёду, той крыж, каторы высеклі зімою, гдзе свенцілі воду. Збоку, нахіліўшыся, стаіць ёлачка. Завернулася крыга раз і другі, выбілася на прастор і паплыла. Вот яна саўсім схавалася, толькі ёлачка чуць-чуць чарнее каля другога берэга. Вот і яна пропала з вачэй. Па сярэдзіне важна коціцца стары, сухі дуб. Яшчэ летась стаяў ён над самым Нёманам; размыла вада берэг; абваліўся

---

*) трастнікам.

ён разам з дубам у Нёман, і панесла старога вада. Упіраецца ён, чэпляецца за кусты. Але быстра вада, круціць яго ва ўсе староны, як лёгкую трэску. Выплыў і ён на лёс і пакорна аддаўся на волю вады. Гоніць вада яго. Сустрэчаюцца старые дубы, што крэпка стаяць у вадзе. Бачаць—земляк. Сюды, брат, ідзі! Адбяром цябе ад вады. Годзі ёй здзекавацца с цябе. Патплыў стары, упынпўся каля сваіх братоў. Моцна стаяць дубы, не даюць труп старога таварыша.

---

## Нёман.

Льецца Нёман памеж гораў,
Светлы, чысты, як раса,
Накапаў ён ям і нораў,
Гоніць воду праз леса.
        Гой, ты, Нёман, наша рэка!
        Поіш ты і корміш нас,
        Бедну чайку чалавека
        Ты с сабой насіў не раз.
А вясною на прасторы
Дуб стары сярдзіта гнаў,
І насіў ты крыгаў горы,
Луг і поле затапляў;
        Разліваўся па ракітам,
        Занімаў і лес, і гай...
        Даўгавязы плыт за плытам
        Носіш ты ў далёкі край.
Колькі раз рыбацкі човен
На грудзях тваіх гуляў!..
Гой, ты, Нёман, быстры Нёман,
Колькі дум ты мне нагнаў!

Чуў ты смутак горкай долі
Свайго сына—мужыка.
Чуў не раз у пустым полі
Плач і слёзы бедака. ...
Ў ціхі вечэр над табою
Дудка плакала не раз,
І каціласяя слезою
Песня ў ранні летні час. ...
А на берэзі пад дубам,
Ў ночку цёмную, рыбак
Спаў не раз пад мокрым лубам,
Гнуўся с холаду, бедак.
А у буру вецер кветку
Да грудзей тваих схіляў,
І касец ў табе у летку
Пот крывавы абмываў.
Над табою месяц круглы
Ў ясным небе ціха плыў,
І с табой высокі, смуглы
Лес ціхутка гаварыў.
Перарэзаў край ты родны
Беларуса-мужыка...
О, наш чысты, наш свабодны
Нёман, быстрая рэка!
Ты цячеш далёка—знаю,
Ў землю Літвы і немцоў...
Раскажы ж чужому краю
Пра жыццё тваіх сыноў!..

## Мурашкі.

Апсохла зямля. Дзе-ня-дзе стала паказывацца зялёненькая травінка. На прыгорку, у лесі, весела гойдае сінею галавою першая вясенняя кветка—сон. У яго касматай галоўцы ўжо поўзае пчолка, цалуе яго сініе лісточкі... Усё варушыцца, прачыхаецца ад зімняго сна і холода, усё хочэ глянуць на высокае сонцэ, што так шчыра аблівае яшчэ мокрую зямлю сваім цёплым, добрым светам. Сагрэла сонейко і мурашнік, каторы поўгода быў засыпаны снегам. Пачула цяпло і працавітая мурашка. Выпаўзла яна з зямлі, дзе сядзела ўсю зіму; за ею выпаўзла другая, трэццяя. Вот ўжо іх цэлая тысяча таўчэцца, грэецца на сонцэ. Пагрэліся і зараз за работу, давай папраўляць сваю хату, папсованую снегам. А яшчэ дзеньки праз два-тры папаўзуць яны ў лес збіраць кусочкі хвоек, смолку, што скінула старая хвоя. А попадзецца на дарозі жук або хрушч палепяцца яны за яго і павалакуць яго да сваёй хаты. Працавітае стварэнне—мурашка. Много чаго ёсць павучыцца у яе гультаю.

---

## Дуб і чароцина.

Была весна. Ціхі вечэр. Месячык плыў у небе, свяціліся зоркі. Спакойна каціласяя рэка і блішчала на месяцы. На берэзі стаялі тоўстые, старые дубы. У самым берэзе, у вадзе, чуць-чуць шарасцеў чарот. Каля самаго берэга, ӧтдлек ад других дубоў, рос самы тоўсты, самы магучы дуб.

Завела чароціна з дубам гавор.

— „Скажы мне, дубе",—пачала чароціна: „чаму ты

ня гнешся прэд бурэю, і бура цябе не можэ здалець? Часта, стоячы тут, бачыла я, як самые сярдзітые буры упіраліся ў цябе, як у камéнную сцену. На тваéй галаве бусел звіў агромнае гняздо, а ты нават не чуеш гэтае ценжэры. А я вот стаю тут ды гнуся, як жабрак. Малéнькая птушэчка сядзе на мне, я не выдзержываю і гнуся да самае вады. Часам жук неўмысля вытнецца аб мяне, я ўся закалачуся, як у хваробі.

„Дык скажы ж мне, дубе, аткуль твая сіла? скажы мне, чаму я такая слабая?“

І кажэ ёй дуб:

— Ты баішся жыцця, затым ты і слабая. Ты выбіраеш мяккі грунт, каб не так трудна было бараздзіць зямлю сваім карэнням. Усім ты хочэш унаровіць, ка ўсякаму ты падыходзіш хітрасцю і змалку прывыкла ты гнуцца. А калі хто гнецца, тым ён паказывае сваю слабасць і поўнае непаважэнне к сабе. А хто не паважае сябе, таго і другіе не паважаюць, папіхаюць ім, як хочуць. Ты прывыкла да лёгкага жыцця і ўсю надзею кладзеш на другіх. А хто не надзеецца на сябе, той цягам бывае слабы. А я змалку надзееўся толькі на сваі сілы і на сілы зямлі і сонца. Змалку навучыўся сам памагаць сабе. Нікому я не гнуўся. Лéпей зламацца сусім, чым гнуцца усякай сілі. Мы, дубы, так і робім: або ломімся, або выжываем. За тое, як хто з нас захавае сваё жыццё, тагды нікóго не баімося. Праўда, і мяне можэ зламаць бура і цяпер: нема на свеце такое сілы, над каторай не былоб большае сілы.

---

## Ластаўкі.

Прыляцела ластаўка з далёкага выраю. Села яна на стрэху старóго гумна і зашчэбетала. Вясёленькая песенька яе так і пасыпалася па ўсім двары мілым шчэбетам.

Уляцела яна ў гумно, даведалася свайго даўнейшага леташняга доміка. А ён за зіму апсыпаўся, абвіс павуццём; толькі камячок гразі дзержаўся кале сахі, на каторую апіралася стрэха гумна. Туды прыляцела і другая ластаўка. Пашчабеталі яны ў дзвёх, парадзіліся і давай папраўляць сваю хатку, ачысцілі яны яе ат пылу і павуціны. Кожны дзень па некалькі разоў прылятали яны ў гумно; насілі ў дзюбіку клейкую гразь, замазвалі дзюркі і далей строілі гнядзечка, каб яно было глыбшае і большае. Доўга працавалі ластаўкі, і вылепілі яны харошэнькае, кругленькае гняздзечка. Тады насілі яны перцы і высцілалі імі дно. Самічка-ластавачка несла там свае маленькіе, рабенькіе яечкі.

Чэраз нядзелек дзьве з яечак вышлі голенькіе, маленькіе птушачкі с жоўценькімі роцікамі. У тое гумно часта прыхадзіў гаспадарскі сынок, Пятрусь. Любіў ён, лёгшы на сене, пазіраць, як клапаталіся старые ластаўкі, носячы корм для сваіх маленькіх дзетак. А маладзенькіе ластавачкі садзіліся ў гняздзе ў рад і разяўлялі роцікі, як толькі прылятала да іх каторая-нібудзь старая ластаўка. Старые клалі корм кожнай па чародзе. Пятрусь, любіў на гэта пазіраць і, лежачы, ціха, сам сабе смеяўся.

У Пятруся быў сябар, сын суседа, яго равеснік, Антось. Завеліся нек за невошто хлопцы. Хітры і нягодны Антось, каб зрабіць злое Пятрусю, прышоў раз у гумно, як не было Пятруся там, і спароў тычынаю гняздо, а сам ўцёк. Бедные, нявінные птушачкі паскідаліся на сена. Жалабна зачырыкалі старые ластаўкі, біліся, лятали, кружыліся над беднымі сваімі дзеткамі. Пачуў Пятрусь іх трывожны крык і кулем кінуўся ў гумно. „Кот, мусіць!“ падумаў Пятрусь і ўзяў аскабалак, каб пачаставаць ласуна, шэраго ката. А як забілася яго сэрца, як убачыў ён, што гнезда не было! Старые ластаўкі кружыліся кале самага Пятруся, ўсё роўна як

прасілі у яго помачы. Шкода было Пятрусю маленькіх птушачэк. Сядзелі яны, бедные, ў куточку і разяўляліся. Доўга думаў добры Пятрусь, як памагчы нешчасным дзеткам-ластавачкам. Ўсіх было цэлых пяць...

І ось што прыдумаў Пятрусь. Ўзлез ён на гумно, выдраў па самым валу ямку, аблажыў яе пер'ем і выстраіў хитрае гняздзечка. Потым ён пабраў ў шапку маленькіх ластавачэк і палез з імі на гумно. А каб шапка не перэшкадзала яму лезці, ён ўзяў яе ў зубы. Ўзлезшы, палажыў ластавачэк у зробленое ім самім гняздзечка. Старые ластаўкі лётали над Пятрусём; яны ня ведалі, што будзе рабіць з іх дзеткамі дабрадзей іх, Пятрусь. Палажыўшы ластавачэк, Пятрусь злез з гумна і адышоўся, каб не баяліся яго старые ластаўкі. Убачыўшы, што іх дзеткі ўсе, і ўсе жывы, старые весела зашчэбетали і паляцелі лавіць мошэк на полудзень для сваіх дзетак. А маленькім птушачкам тут было сусім добра, не горш нават, як ў гумне. Па некольки разоў ў дзень лазіў Пятрусь на гумно паглядзець, як маюцца ластавачкі. А яны борзда раслі і харашэлі.

Як толькі падымалася хмара, сабіраўся дожджч, Пятрусь кідаў работу і лазіў на гумно, і накрываў гняздзечка разам з ластавачкамі, каб не нацякло туды вады. У Пятруся бацька быў добры і не крычаў на яго за тое, што ён парасцягаў трохі на стрэсі салому, лазячы да сваіх птушачэк. Толькі часам пасмяецца з яго і скажэ яму: „Эх, ты ластаўчын бацька!“ Але Пятрусь за гэта ня гневаўся і не сердаваў.

Старые ластаўки перасталі палохацца Пятруся, бо ведалі, што ня зробіць злога ім і іх дзецям. Ў харошую пагоду маладые ластаўкі вылазілі з гнезда і ўвесь дзень сядзелі на сонцы, а на ноч ізноў хаваліся ў гняздо, зробленае Пятрусём.

Прашло недзелек дзве. Ўзлезшы на гумно, Пятрусь

ўзяў ў руку маладую ластавачку і павагаў яе. Махнула яна крыльцамі, фуркнула і паляцела, а за ёю пападымаліся і узняліся і другіе. Рад быў Пятрусь, што лётаюць яго ластавачкі (ён называў іх сваімі). Вот яны палёталі, пакружыліся і зноў прыляцелі на гумно. А дзенькоў чэраз два яны ўжо лятали разам са старымі і самі шукалі сабе пожывы. От як Пятрусь даў шчасце добрым нашым прыяцелям—ластаўкам.

---

## 2 Лета.

Прышло і лета. Куды ні глянь — ўсюды зелена, ўсё расце, ўсё наліваецца. Лісцця на дрэвах вырасла ва ўвесь рост свой і весела трапечэцца на сонцэ. Весела пазірае стары лес, што разросся за сялом і цягнецца па краёх поля, як рэзак, пастаўлены зубамі ў гору. Кусты арэшніка, рабіны, чаромхі густа разрасліся ўнізу і далёка параскідалі свае зялёные галіны. Так зелена, так густа, што, здаецца, не пралезеш ў лес! Птушкі аж глушаць сваімі галасамі, сваім шчэбетам. Некатарые, ранніе, ўжо вывелі дзетак і клапатліва шчабечуць каля сваіх гняздзечак, як нянькі каля калыскі. Колькі кветак, колькі ўселякіх матылёчкаў, мошак і пчолак! Ў воздусі стаіць без конца шум і звон ад іх крыльлеў.

Поле пакрылося зеленью. Ўжо выплыў авёс, ячмень; цягнуцца палоскі гароху с харошэнькімі, чырвоненькімі і бледненькімі кветачкамі. Там відаць зялёненькіе стужкі лёну с сіненькімі галоўкамі; бялее грэчка, наліваецца жыта і ціха шарасціць ў полі сваімі сярэбранымі каласкамі. Як слаўна глядзець на гэтые вузкіе стужкі-палоскі крэсцьянскаго збожа! як свежы ветрык калышэ, вядзе з імі невядомые, спакойные рэчы! Жаваранкі рассыпаюцца над імі песнямі, кружачыся ў небе.

Зялёнаю, шырокаю паласóю, заросшаю местамі лазою, круглымі зараслямі маладога дубняку, каторых завуць астраўцамі, раскінуўся луг паабапол рэчкі. Густая, высокая трава, як морэ, калышэцца на ветру. А кветак, кветак! Якога толькі колеру не найдзеш тут кветак! Мільёны пчолак, чмялёў ўюцца над імі са звонам і шумам. Так і цягне на прывольны луг, гдзе так многа кветак, птушак, ўсякіх конікаў і матылёчкаў, песень, шуму і звону, гдзе так прахладна падыхае чысты, свежы ветрык.

Шчэраю рукою убрала лета ўвесь Божы свет.

---

## Летні поўдзень.

Высока стаіць яснае сонцэ на чыстым небе. Ціха ўсюды!.. Збожэ на полі чуць-чуць скалыхнецца, як павее гарачы вецер, і ізноў заспакоіцца, ні зварухнецца. „Варыць, як ў гаршку“, кажуць вясковые людзі. Далёка-далёка цягнецца востраверхая палоска леса, заслаўшыся сіневатаю смагаю, не то тумана, не то дыму. Ўсё прымоўкла, усё хаваецца ў цянёк ад гарачаго сонца. Нават гутарлівые птушкі перэсталі спеваць і сядзяць гдзе-нібудзь на галінах ў халадку зялёных лісцеў. Толькі конікі адны трэшчаць ў траве, ды мігаюцца беленькіе і чырвоненькіе матылькі, трапечучы сваімі кроплястымі крыльцамі. Ціха!.. Чутно нават, як пралетае працавітая пчолка. „Ву-у-ум!“ разсякаюць яны воздух борздым палётам сваім і напоўняюць яго цененькім прыятным звонам. Ў небе гдзе-не-гдзе праплыве пушыстая белая хмурка, як ком воўны, і схаваецца за лесам, або растане, як снег, далёка ў небе.

Ўсё прытаілася, як бы задрэмала. Толькі часамі закукуе зязюлька разоў два ў зялёных лісцях і борздо змаўкае.

Каршун, падняўшыся высока над лугам, кружыцца ў небе, выглядаючы сабе пажытак, і нудны крык яго голасна расплываецца над хмарамі над заспакоеным лугам.

---

# Навальніца.

Вецер угаманіўся, заціхнуў саўсім. Сонцэ высока стаіць на небе і без жалю паліць зямлю. К поўдню сталі паказвацца вадзяністые с цемнаватымі сярэдзінамі хмуркі. Сонцэ пачынае бродзіць па гэтых хмурках, і цень невялічкімі лапінкамі памаленьку паўзе па зямлі, павэдлуг таго, як ідзе сама хмурка ў небе. Вот адна перашла чраз сонцэ, і зноў яно стала на чыстым небе і яшчэ гарачэй прыпекае. А там, проці сонца, зноў паўзе хмурка, за ёю другая, трэццяя і усё часцей і часцей блудзіць гарачае сонцэ ў смутных хмурках.

З аднэй стараны неба пачынае чуць-чуць цямнець. Ў тым мейсцы, гдзе яно як бы апіраецца на зямлю, падымалася хмара, чорная, страшная. Ў перадзі, як горы, шлі клубкамі с чырванаватымі краямі аддзельные хмары, як дым, разліваліся па небі і як бы цягнулі за сабою чорную, густую, гладкую сцяну. Яны то злучаліся, то раздзеляліся, то перэганялі адна адну, то прападалі, а мейсца іх заступалі новые і плылі памалу, і ткалі чорную хмару, каторая аддзелялася ад пярэдніх светлых клубкоў сівым, доўгім поясом хмар з завострэнымі канцамі. Г-у-ууу-у! Ціха, важна, спакойна, густа і страшна пракаціўся ў небі першы гром. Далёка над лесом блiснула маланка, яркая, борздая, і накрыж перасекла хмару. Счакаўшы крышку, зноў разліваецца, наўперад ціха, а потым паволі мацней, мацней і на сярэдзіне самы тоўсты, самы крэпкі гук і за гэтым ізноў памаленьку заціхае і ўмірае за лесам. Маланка часцей і ярчэй барануе неба, часцей грыміць гром, і надыхо-

дзіць ўсё бліжэй і бліжэй хмара. Ціха зрабілася ўсюды. Людзі, як мурашкі, заварушыліся, забегалі на лузі, на скорую руку складаюць сена ў копы. Ў адзін момэнт тысячы коп сена выраслі на грудох. Лісцік на дрэве, травінка пад кусцікам, каласок у полі ні скалыўнуцца. Здаецца, ўвесь свет перастаў нават сапці. Птушкі змоўклі. Конікі перасталі трашчаць у траве. Ўсё як бы чэкае чагось-то страшнаго. На сэрцы і боязна, і нек весела разам. А хмара ўсё чарнее. Ўсюды пацямнела, як бы надыходзіў вечэр. Гром гудзе і гудзе без перастанку. Вот цёмны пояс панёсся борзда-борзда. Павеяў вецер і пагнаў прэд сабою пыл і сухое лісцця. Над галавою бліснула маланка, і за ёю адразу трэснуў гром, аж усё затраслося, закалацілося, і кінуліся першые буйные капкі, і дождж з ветрам паліўся, як з ведра.

---

## Прэд навальніцаю.

Ў хмурках сонцэ заблудзіла.
Ціха ўсюды, парна так.
Сціхла поле, як магіла,
Ў агародзі знікнуў мак.
А за лесам ўсё цямнее...
Гу-у!.. грыміць далёкі гром.
Сэрцэ бьецца, сэрцэ млее —
Каб не скрыўдзіла даждж ом!
Крэхчуць жабы у балоце...
Як замлела ўся зямля.
А ў калясцы, ў пазалоце
Ездзіць ў хмарах ўжо Ілля.
Нават страшна, сумна стала...
І сярдзіта ж ў хмарах масць!
Каб даждж ом нас не скарала...
Ну... што будзе, што Бог дасць?!..

# Ручай.

Чулі вы, як балбочэ без прэстанку, і ў дзень і ў ночы, над гарою ручай, цякучы па каменчыках, скачучы з аднаго парога на другі? Вы не раз чэрпалі ў ім чыстую, халодную воду і асвежалі, як кажуць працавікі, сваю душу ў гарачы летні поўдзень; вы не раз сядзелі каля ручайка, жэвалі сухенькую скарынку хлеба і запівалі халоднаю вадзіцэй ручайка. Не раз вы лежалі там, схаваўшыся ад гарачаго летняго сонца. Над вашаю галавою стаяла чыстае, сіняе неба; толькі ласне гдзе-не-гдзе поўзла ціханька белая хмурка. Высока ў небе нудна свістаў каршун, выглядаючы сабе пажытак; так сумна і жаласна кувала зязюлька, ўсё роўна, як плакала аб сваёй батрацкай долі, аб тым, што нема ў яе сваёй хаткі. Ў кустох весела шчэбеталі птушачкі над гняздзечкамі, ў каторых ужо сядзяць маленькіе, яшчэ голенькіе дзеткі... Як добра пасля работы палежаць на беражку ручайка, ў цяньку лазоваго кусточка! Як свежа, як здорова тут у гарачы летні поўдзень!

Хто не знае мовы ручайка, той скора сцішыцца і засне пад бесканечны яго шумок. Але многа цікаваго пачуе той, хто умее чытаць кнігу Божэй прыроды, Божаго свету, хто цяміць і разбірае іх мову.

— Ласне ручай умее гаварыць?—спытаеце вы.

— А ці вы ня чуеце яго мовы?—спытаю вас і я:— слухайце ж:

„Буль-буль-буль! Цюх-цюх-цюх!“

Так і булькае, так і цюхкае маленькая рэчачка! Гэта і ёсць мова нашага маленькага ручайка.

А цяпер, давайце, пагаворым мы з ім...

— Нема часу, нема часу!—зашумелі маленькіе хвалькі і пабеглі чародкамі адна за адной далей.

— Куды ж вы так спешаеце?

— О! нас многа там пад гарою,— кажуць капелькі,— і кожная з нас спешаецца выйці скарэй на свет Божы і зрабіць сваю работу, якая нам назначэна.

— Дзе ж вы былі дагэтуль?

— Я,—кажэ адна капелька,—была пóтом і скацілася з працавітага твару мужыка, як трудзіўся ён у полі над сваею вузенькаю палоскаю.

— Я была слязою, кажэ другая:—вон, бачыце, магілкі? Там бедная маці плакала, стоячы над маленькаю трупною свайго сына, як засыпалі яго магілку сырою зямлёй.

— А я была ў вашым сэрцы, кажэ трэццяя.

— Я яшчэ тры дні таму блішчала расою на лісцях...

— Я была снегам.

— Я—градам.

І пашлі разказываць гутарлівые каплі, дзе яны былі.

— А як жэ папалі вы сюды, ў ручай?

— Грэла сонцэ, і мы малюсенькімі пузырочкамі, такімі малюсенькімі, што нас і не разгледзіць вашэ вока, падымаліся к небу. Там сабіралася нас многа-многа, і мы плывалі ў хмарках, а потым, як нас збіралася надта многа, хмары не ў сілах былі трымаць нас, і мы кідаліся назад на зямлю чыстым дождыкам, часамі градам, а зімою— белым мягкім снегам. Каламутнымі равочкамі цяклі мы па разорках, абмывалі сабою твар зямлі, пакрыты пылам, зліваліся, прасочваліся ў зямлю там, дзе яна свободна аткрывала для нас дзверцы, покі не знаходзілі цьвёрды ґрунт, каторы не пускае нас далей, і па гэтым ґрунту памаленьку цяклі ў сярэдзіні зямлі, покі не знаходзілі сабе выхаду на свет Божы. А то часта вы самі дастаеце нас, капаючы калодзезі, (студні).

— Куды ж цяпер бяжыцё, мілые каплі?

— А мы і самі ня ведаем, куды. Па дародзі чэрпаюць нас людзі на свае патрэбы; намі птушкі, і зверы, і быдла

праганяюць смагу; нас сонцэ патрошкі выпівае сваімі цёплымі лучамі (праменьмі). Носімся мы па ўсім свеце, сыходзімся, расходзімся і вечна круцімся; нема нам ніколі спачынку.

От што казалі светлые каплі.

---

## Каля возера ў ночы.

Ціхі сон ночы вее над зямлёю. Заснула поле пад чорнаю посцілкаю цьмы. Стары лес перэстаў хістацца і махаць касматымі лапамі, стаіць, як заварожэны, па краёх поля і дрэмле на месяцы. Хаты зліліся пад адзін чорны плех і патанулі ў цемнаце. Ціха і спакойна!..

Люблю я ў гэтакую ночку выйці адзін на берэг возера, стаць на грэблі каля млына і прыгледзіцца да хораства летняе ночы, прыслухацца да яе цішы. Круглы, бліщчасты месяц высока стаіць на небе і лье свой бледны, маркотны свет на сонную зямлю і глядзіцца ў спакойнай вадзе возера. А гладкае, бліщчастае возера люстром зяе на месяцы, і ціха—спакойна чуць чуць дрыжаць яго маршчынкі, маленькіе хвалі, на бледным бляску месяца. Тысячы зорак любуюцца ў ім, дрыжаць, пераліваюцца, як каплі расы пры ўсходзе сонца. Па краёх возера разрасліся высокіе балотные травы, аір, чарот, асака. За імі чуць-чуць вырэзаюцца с цемнаты чорные фігуры алешын і старых дуплістых верб. Роўны, спакойны ўсю ноч не сціхаючы шум вады, каторая сочыцца праз шчыліны заставаў, навевае пакой на душу. Стары млын с цяжкімі ко́ламі, здаецца, заслухаўся шумам незлічэных капель і адзінока стаіць над вадою і бліщчыць на месяцы сваімі маленькімі ваконцамі, запыленымі мукою. Ціха! Толькі часамі плюхне рыбка, і маленькіе хвількі пабягуць адна за адною маленькімі

абручыкамі і расплывуцца па возеры, не дашоўшы да берэга...

Ёсць нешта дзіўнае і важнае ў гэтым спакою летней ночы, чаго высказаць ня можэ беднае слова чалавека. Толькі сэрцэ бьецца лёгка и спакойна, и нема ў ім мейсца для трывогі, для клапатлівых думак буднаго жыцця...

---

## Чужы сад.

— Ведаеш, брат Ясь, што?.. давай пойдзем ў Грышкаў сад ды накрадзём яблыкаў, гаварыў малы Алесь свайму сябру Ясю.

— А як Грышка зловіць?—пытаў Ясь.

— Мы наўперэд паглядзім ды скрадзёмся загуменнем.. А, брат, знаеш, якіе яблыкі!—пачынаў Алесь распісваць Ясю Грышкавы яблыкі:—во гэтакіе!—паказваў Алесь двумя зложэнымі далоньмі.

Тут Ясь аж сліну глынуў.

— Калі ж, брат, страшна Грышкі — надта сярдзіты дзед і моцна ён круціць за вуха,—стаяў Ясь на сваём.

— А ён хіба цябе круціў за вушы? збаяўся Алесь.

— Ня толькі за вушы, а і за лоб.

— Мяне не дагоніць!—разганяў Алесь свой страх.

— І мяне не дагоніць: ён тагды выскачыў спатайка.

— Дык ня пойдзеш?

— А хто яго ведае.

— Ну, дык я йду адзин. А табе—дулю ў нос, а не яблык.

— Дык і я пайду ці што,—не выстаяў Ясь.

І два вясковые, маленькіе шэльмы борзда схаваліся за вуглом хаты і, прытуліўшыся, пашлі каноплями ў Грышкаў сад. Чым бліжэй патхадзілі нашы хлопцы да Грышкаваго гумна, тым болей нападаў страх на іх. У Яся ат страху

аж вушы засвярбелі, ўсё роўна як бы іх патрымала ўжо рука старога Грышкі. Сэрцэ іх моцна стукала. Аднаму і другому хацелася сказаць „вярнёмся“, але кожны з іх баяўся сказаць, каб не паказаць, што ён—палахлівы. Вот ужо і сад. Асталося прайці толькі некольки загонаў, засеяных аўсом. На іх бяду авёс быў малы, толькі што выплыў. Хоць хлопцы і сагнуліся, але іх спіны былі відны. „Лажэмся!“ камандаваў Алесь. Яны ляглі і папаўзлі ракам. Патпаўзлі яны пад самы сад. Алесь асцярожна падняў галаву і агледзеўся. Дзеда нігдзе не было відаць. Прасунуліся хлопцы памеж жэрдак плоту і ўлезли ў садок. Садок быў не вялічкі, ўсяго некольки дрэўцаў. Толькі што яны націкавалі яблыню,—шусь дзед у сад, як з зямлі вылез.

— Чаго вы, галубочки, тут? (Зналі хлопцы цану гэтага „галубочка“).

Яны маўчалі.

— Ну, што, хараша?.. Ах, вы жулікі, жулікі! Давайце ж сюды вашы вушы... Вот як у мяне!

І дзед вытрас за вушы і Яся, і Алеся і нават лыбамі іх стукнуў.

Брыдка было хлопцам і пашлі яны, як апараные.

Распусник-Алесь, каб не даравацъ дзеду, адбегшыся, крыкнуў:

— Грышка—кішка!

---

# Вясковые дзеці.

Пусты ў летку нашы сёлы:
Ўсе на полі за сярпом,
Толькі дзетак крык вясёлы
Льецца ў вуліцах руччом.

Вецер кудры іх цалуе,
Мые дождж іх бледны твар;
З імі сонейка жартуе
І цяпло ім шле, як дар.

---

# Вёска.

Нел.

Цесна збілісь нашы хаты,
Як авечкі ў летні жар;
Для агню тут корм багаты,
Як укінецца пажар.
Хлеўчык, склепік і гуменцы
Пад адзін зліліся плех;
Трэскі ўсаджэны ў акенцы,
Замеж шкла—радняны мех.
Загародка пад акнамі,
Блісне кветка гдзе-не-гдзе,
Зельлем глушыцца, травамі
Мак, цыбулька на градзе.
Зеляпеюць два-тры клёны,
Блісне ліпа дзе з-за хат;
Гдзе-не-гдзе садок зелёны,
Хворых вишэнь нізкі рад.
Відны сані пад страхою,
Кола, сошка, барана,
Кол с хваёваю мятлою,
Ўбіты ў дол каля вакна.

# Летняя раніца ў вёсцы.

Толькі што патухне на небе апошняя зорка, толькі чуць паспее разысціся цемната кароткае ночы, і чырвоным пажарам загарыцца край неба на ўсходзі, вёска прачыхаецца, шум і трывога дня пачынае памалу ўхадзіць ў сваю калеіну. Па вуліцы ўжо ідзе пастух з доўгаю пугаю на короткім пугаўі, с торбаю, перакінутаю цераз плечо, і крычыць на ўсё сяло:

— „Выга—ня-я-я-я-й!"

Скрыпяць ў хлявóх вороты, мыкаюць каровы, бляюць авечкі. Пастух, стары Лукаш, ляскае пугаю, наганяе страх на сваіх налéжных, — кароў, авец і свіней. Бабы з заспанымі тварамі спешаюцца выганяць на вуліцу сваю жывёлу. Ўся вуліца аж гаворыць ад рыкання валоў, блеяння авец, піску і рухкання свіней. Доўгая чарада жывёлы цягнецца па ўсей вуліцы, падымае цэлую хмару пылу.

Заскрыпелі калодзезі; бабы с каромысламі і вёдрамі ідуць па ваду. Чуцен іх борзды і моцны говар і смех. Тонкімі, роўнымі слупкамі падымаецца белаваты дымок с коміноў і разліваецца ў небе клубочкамі і перэліваецца ў першых лучах сонца. Куры чародамі пазлеталі с сваіх седалоў, і ідуць пад камандаю пеўня разгрэбаць сметнікі. Ў канцы села заґарґаталі гусі і качкі. Выпаліўшы ў печы на скорую руку, бабы с серпамі, горшкамі, збанамі ідуць на поле. Іншые нясуць люлькі за плячыма — малéнькіх дзетак, бо з нескім пакінуць іх дома. Другіе вязуць і дзяцей і ўсе прыпасы ў калясцы. Загрукаталі калёсы. Ўся вёска пусцее; астаюцца адны толькі дзеці ды старые, каторых ня могуць ужо занясці на поле іх слабые ногі.

# Суш.

Даўно, даўно ішоў дождж. Неба чыста, як шкло. Сонцэ ўвесь дзень пячэ неміласэрдна. Глянем на поле, на луг, на лес—туман, смага сіневатаго колеру вісіць над усім. Ўвесь Божы свет як бы заслаўся нейкім дымам. Збожэ без пары жоўкне ў полі. Коласы на ніве пасохлі і нудна калышуцца па ветру. Грэчка апусціла лісця, як апарэная гарачай вадою. Ўсё павяла, папрышчылася на сонцы. Вада ў рэках абмелела. Кепска цяпер і расліні, і жывёле, і рыбцэ. Нудна пазірае чалавек на гарачае неба, ці не відаць гдзе хмурынкі, ці не нагоніць часам вецер даждлівых хмар. Але неба астаецца чыстым, гладкім, гарачым і непрыступным для просьбы чалавека і прыроды, і гаратай без надзеі пазірае на поле, гдзе гібне яго праца. Толькі слупы чорнаго і сіваго дыма відаць то там, то сям над лесам, ды неба ў ночы чырванее ад далёкіх пажароў.

---

# Мужычая ніва.

На мужычым полі
Цягнецца палоска...
Зельле яе глушыць,
Абвіла бярозка.
        Ветрам паломала,
        Дождж̌ыкам Прыбіла,
        Бура-навальніца
        Коласы скруціла.
Сіняя валошка,
Травы разрасліся,
Палыны на межах
Густа упляліся.

Ой, мужыча ніва!
Ты сіротка ў полі:
Нема табе шчасця,
Нема табе долі!
Ой, ты, ніва наша!
Ці ж ты не арана?
Ці ж мужычым потам
Ты не палівана?
Ці то кепска сонцэ
Свеціць над табою,
Што зрасла ты густа
Дзікаю травою?
Заплылі вадою
Ўсе твае разоры,
Пакапалі мышы
На загонах норы.
Птушкі ў Божэм небе
Плачуць над табою,
Што зрасла ты, ніва,
Палыном, травою.
На мужычэй ніве
Коласы пустые.
Ці не шкодны полю,
Слёзы вы людзкіе?

## Лясны пажар.

(З расказа леснікова сына).

— Гарыць лес! — с трывогаю сказаў мой бацька, вышаўшы на двор и панюхаўшы воздух.

Я выскачыў на двор. Пахла гар'ю і дымам.

— Бегайма, сынок! — сказаў мне бацька, узяўшы рыдлёўку.

Мы пабеглі. Выскачыўшы на прыгалак, на каторым была гара, мы ўзбеглі на гару. Дым з гары быў ясна відзен; — гарэў лес. Толькі трудна было распазнаць, ці ў нашым апходзе быў пажар, ці ў чужым. Мы пабеглі проста на дым. Беглі мы доўга. Было страшна горача, пот так и каціўся з нас. На нас не было сухога руба. Мы ужо перабеглі і граніцу свайго леса. Агню яшчэ не было відаць; толькі дым, каторы развеваўся ветрам па лесі і тумаціў яго, даваў знаць, што пажар блізка. Скора мы убачылі і самы агонь. У лесі нікога не было, і агонь без запынку разгульваўся на волі. Цэлае возеро агню абнімала лес да палавіны, разлівалася кругом і займала ўсё большую и большую лапіну.

Страшны і разам цікавы від мае пажар леса!

Шум агню чуцен за вярсту. Агонь ахватвае малады хвойнік да самаго верху, а пад развесістымі коржанаватымі маладымі хвоямі многа сухіх калюшак и лому. Агонь ўзбегае па комлю, пераходзіць на гальё, а вецер далёка адносіць сухую кару разам з агнём, ад чаго пажар яшчэ скарэй разрастаецца. Цэлая сцена агню ў сажань вышынёю разлівалася па краёх и неслася ўсё далей и далей. Кусты ялоўца трэшчаць, як толькі патходзіць к ім агонь, на момэнт даюць белы слуп дыму і разам апхватваюцца агнём и прападаюць ў полымі. каторае яркімі стужкамі разліваецца ў адну мінуту над хвойнікам. Тоўстые, абросшые мохам старые хвоі, у версі смаляные з выдзеўбленымі дзятламі дзюркамі, гараць, як свечкі. Іншые сусім перэгараюць на палавіне, і вершына з глухім шумам апускаецца на низ, у самы агонь и прападаець у полымі.

Жар нестрывалы—трудна устаяць за тры сажні ад агню. Людзі з лапатамі і граблямі прышлі с суседніх вёсак тушыць пажар. Стаўшы оддалек ад агню, пачалі яны адгрэбаць мох і калюшкі, каб не даць матэр'ялу агню. Капалі землю і кідалі пясок на агонь. На афяру яму пакідалі цэлые моргі лесу, бо за горачынёй трудна рабіць блізка ад агню.

Ў адным месцу пажар патступаў к старому бору. Людзі кінуліся туды і дружнаю работаю адваевалі бор. Агонь рыхтавалі скіраваць туды, гдзе ён меней мог знайсці сабе корму. Пажар памалу ўсё меншаў і меншаў. Яго дарога ўсё вузілася и вузілася. Белы дым спокайне́й слаўся па лесі і тонкімі языкамі ўздымаўся над лесам. Скора бура агню была сусім затушэна. Толькі велізнае вогнішчэ дымілася тысячамі маленькіх дымкоў ды гдзе-не-гдзе вынікаў агоньчык сярод абгарэлай палянкі, раздмуханы ветром. Нудна пазіралі дрэвы з асмаленымі камлюкамі. І доўга, нават цэлые годы, чуваць запах пажара на такіх вогнішчах, гдзе некалі разгульваўся пажар.

---

# Летняя ноч.

Ціха на землю спушчаецца ноч. Ўсё заціхае. Птушкі перасталі спеваць і дрэмлюць на сваіх седалах. Край неба, гдзе зашло сонцэ, блішчыць шырокаю чырвонаю стужкаю.

Тонкіе, лёгкіе хмуркі афарбаваліся ў залаты цвет, ўсё роўна як абняло іх полыме. Белаватаю плёнкаю ўздымаецца туман над лугамі і балотамі. А цемната ўсё гусцее і гусцее і закрывае ад вачэй і поле, і лес. Вот ўзышла ўжо першая вячэрняя зорка; чуць-чуць свецяцца ў далекам небе скрозь цемнату і другіе мале́нькіе зорачкі. Вот яны свецяць ярчэй, дрыжаць, пераліваюцца дзіўным блескам. Кажаны вылецелі с сваіх местоў, гдзе сядзелі яны ўвесь дзень, круцяцца, падаюць на ніз, ізноў падымаюцца ў гору і цыркаюць тоненькім піскам. За сялом, на балоце, закрахталі жабы.

За лесам яснее. Гэта круглы месячык запаліў ліхтарык і свеціць над чорнаю зямлёю. Вось ён падымаецца ўсё вышэй, ме́ншае, бляднее, і маркотны свет яго цэлымі снапамі разліваецца ў цемнаце. Поле, луг, гай і лес, на минуту перэд

гэтым схованые ў цьме ночы, чуць-чуць ясней выступілі сваімі цёмнымі фігурамі.

Вёска заціхае, тухнуць агні. Толькі песні дзеўчат, вясёлы сьмех іх і гоман хлопцаў будзяць адзін канец вуліцы. Вось зазьвінелі званочкі, затупалі коні, пранёсся крык. Гэта начлежнікі едуць на начлег. Яшчэ некольki часу, і вёска усім заспакойваецца. Дрэвы, гумны, хаты абліваюцца бледнымі лучамі месяца і злучаюцца далей с цемнатою. Ціха!.. Толькі часам, прачхнуўшыся, са сну брахне собака разоў тры хрыплым заспаным голасам. На яе голас ад'завецца яшчэ некольki сабачых галасоў, і ўсё заціхне. Адзін толькі месяц і зоркі цараць над Божым сьветам.

---

# Ў грыбох.

Два братм, Алесь і Пятрусь, с каторых аднаму было восім гадоў, а другому дзесяць, папрасілі сваю матку, каб заўтра пабудзіла іх рана-рана, як чуць толькі стане на сьвет займацца, каб да сонца зайсьці ў лес. Хлопцы надумаліся пайсьці ў грыбы. Яшчэ з вечэра загатавалі яны сабе лапці, кошыкі, замест ножыкоў залезцы—адрэзаць карэнчыкі баравіком. Нажоў не набярэшся, ды і на лясніка можна налучыцца. Прыгатаваўшы ўсё, як мае быць, хлопцы павячэралі і ляглі спаць. Спаць не хацелася. Чорные баравікі так і стаялі ў іх вачох. А на заўтра, чуць толькі пабляднелі на небе зоркі, хлопцы ужо вышлі з дому.

Да лесу было вярстоў чатыры. Сьвежы, чысты воздух раніцы запраўляў хлопцаў надбавіць кроку; ім такжэ хацелася скарэй зайсьці ў лес, ад людзей.

А слаўна такі ўстаць да сонца, як прырода толькі што пачне прачыхацца ад кароткага летняго сну, выйсці на прастор і прайці некольki вярстоў па расе на чыстым воздусі! Дзень чуць-чуць занімаецца. Над лесам і полем яшчэ

ляжыць цемната. Тонкая посьцілка белаватаго тумана ціха ўздымаецца над лугам. Неба на ўсходзі чырванее. Раннів жаваранкі затрэпеталі ў нөбе крыльцамі, і льецца іх вясёленькая песьня. Тым часам хлопцы вайшлі ў лес. Верхавіны высокіх хвой ужо залаціліся першымі лучамі сонца, ціха стаялі, не варушыліся. Негдзе высока над імі ці на іх верхавінах звінелі мошкі, і здавалася, што лес маліўся Богу ў ціхі час раніцы. Птушкі шчабечуць на ўсе лады. Спевае дрозд, пераклікаюцца сойкі, крычыць жаўна, стукае дзяцел па дрэві сваім крэпкім дзюбам. Далёка-далёка, ў гушчары яловаго леса, варкуе (брукуе) галуб.

Па дарозі нашым хлопцам пападаліся ўсякіе грыбы: казлякі, асавікі, лісіцы, сыраежкі і другіе Але хлапцы не глядзелі на іх: іх цягнулі баравікі, або добрые грыбы, як іх называюць. Вось хлапцы прышлі ў палянкі, малады хваёвы лес, гдзе летам бывае так многа грыбоў. У лесі яшчэ нікога не было, і хлапцы былі рады, што яны прышлі першые. Перэд тым, як разысціся, яны абрадзілі ўсё: куды ісьці, не гукаць моцна, каб не пачуў іх лясьнік, а толькі ціхінька сьвістаць, і старацца не спускаць адзін аднаго з вачэй. Але ўсё гэта забылася, як толькі сталі хлопцам пападацца баравікі. Вясёлы крык у іх сам вырываўся. „Пятрусь! вось хіба слаўнаго найшоў баравіка!“. Пятрусь бег да Алеся, і баравіка клалі ў кош. Потым баравікі сталі пападацца цэлымі кучамі. Сідзіць адзін, як капыт, па сярэдзіні, а вакруг яго штук дзесяць малых. Іншые зусім былі ў зямлі, накрытые пясочкам і калюшкамі, і толькі чуць-чуць значные горкі зямлі, каторые ўздымаў маленькі баравічок, давалі знаць, што там—грыбы. Часам каторы-нібудзь с хлапцоў наўперэд знаходзіў маленькаго баравічка і толькі як ставіў на зямлю кош, каб узяць яго, тагды ўглядаў другога, большаго. Хлапцы сьмеяліся і бралі наўперэд „бацьку“, як называлі яны самаго большаго баравіка потым меньшых.

Яшчэ сонцэ было нізка, чуць толькі успело падняцца над лесам, а ў хлапцоў ужо былі поўные кошы баравікоў.

— Бачыш ты іх,—казалі жонкі:—якіе малые, а колькі набралі грыбоў! Добра было хлапцом слухаць такіе рэчы, і яны, вясёлые і шчасліные, паняслі да дому грыбы.

## За што пабіліся хлапцы.

Пасьвілі пастушкі на полі, недалёка ад лесу авечки.

— „Хадзём пашукаем грыбоў!.“, кажэ адзін пастушок. Авец прысудзілі пасьвіць самаму меншаму пастушку, Івану, а два большые, Кандрат і Грыгор, узяўшы торбы, пашлі зьбірань грыбы. Назьбіраўшы па торбачцы, яны вярнуліся назад.

Ня ведалі хлопцы, што ім рабіць з грыбамі.

Адзін казаў, каб занясьці іх да дому, другі—радзіў накласьці агню і пячы іх на вугальлі. А малы Іван — дык той проста сказаў, што каб была соль, то ён и сырога баравічка зьеў бы с хлебам.

А покі што, ўсе хлапцы цешыліся з грыбоў. Потым сталі лічыць; выйшла, што Грыгор знайшоў больш за Кандрата, а гэта Кандрату, ведама, не спадабалася. Ў канцы пайшло аб тое, чые лепшые грыбы. Кандрат хваліў сваіх баравікоў, Грыгор—сваіх, бо ўсякі цыган сваю кабылу хваліць.

— „Ці ж ёсць у цябе гэтакі баравік“, пытаў Кандрат, ўзяўшы ў рукі харошаго, здароваго грыба і вагаючы яго на руцэ.

— „Дык мой вось гэты яшчэ лепшы! гаварыў Грыгор, паказваючы свайго баравіка.

— „А гдзе ты знайшоў гэтаго старога капшука, пытаў зноў, смеючыся, Кандрат і вымаў с торбы Грыгора старога падушанаго ў торбе, як галушку, грыба.

— „Гэта ня грыб, а бабскі каптур“, не перэставаў жартаваць Кандрат. Іван зарагатаў.

— „А гдзе ты ўзяў гэтаго чарвіваго шатшуля, лежаў ён мусіць, тры дні на дарозе: яшчэ мо'пазаўчора выкінула яго старая Марозіха с каробкі, а ты падняў і хвалішся і носішся з ім, як кот с селядцом“.

І Кандрат вымаў свайго чарвіваго баравіка.

— „Гдзе ён табе чарвівы?“ заступаўся ён за свайго грыба.

— „А ты вось толькі глянь добра. Там чэрвякоў больш, як мурашак у мурашніку“.

Грыгор узяў чэрвіваго баравіка, каб паказаць, што ён чарвівы, і адламаў палавіну шапкі.

Не сцярпеў Кандрат такое крыўды... Як трымаў ён палавіну шапкі, дык і ляпнуў Грыгору ў зубы. Грыгор— назад Кандрату! І пашла бойка.

Сталі нашы хлопцы шпурляцца баравікамі. Ўсе грыбы патаўклі, аж да загрудак дзела дашло.

Дык вось за што пабіліся хлапцы́.

# 3 Восень.

„Прышоў Пятрок—апаў лісток; прышоў Ільля—апала два“. Так кажуць людзі, бачучы чуць відны паварот ад лета к восені.

Луг ужо скошэны. Гдзе яшчэ нядзельку таму назад калыхаліся высокіе, зялёные травы, блішчалі кветкі, над каторымі с такімі вясёлымі песьнямі лёталі работніцы пчолкі, зьбіраючы мядок,—там цяпер пуста. Адны толькі дзябёлые стогі, як вежы, параскідаліся па грудочках то тут, то там. Маладзенькая травіца-атава, каторая вырасла на пакошы замеж старое травы, блішчыць на сонцы, як толькі што ўзышоўшы ячмень або авёс, і сьцелецца па зямлі, як павее вецер. Ей ужо ня вырасьці да старое. Буслы даўно пазьляталі з гнёздаў і ходзяць стадамі па лузі, або кружацца высока-высока ў небе, ўсё роўна як радзяцца яны прэд далёкай дарогай.

Жыта на полі зжата і зьвезена; авёс і ячмень сабраны. Толькі гдзе-не-гдзе жаўцее чыя-нібудзь палоска позняго аўса ці ячменя, ды пачарнеўшые лапінкі сьпелай грэчкі чэкаюць серпа. Картафлянік на картофлях павяў, апусьціў сухое лісьця; адны толькі голые цыбуры тырчаць, як палкі. Глуха і нудна на полі. Ужо не чутно спакойнае гаворкі ціхаго ветра с каласкамі збожа. Толькі ржышчэ—каротківе пянёчкі жыта, аўса, ячменя і пшаніцы—гавораць, што тут яшчэ недаўна красаваліся пасевы. Ужо не трапечуцца ў небі над полем жаваранкі з мілымі песьнямі. Прашла вясёлая пара лета, ўсё атцьвіло, аткрасавала. Ўсюды, куды ні глянь, накладае восень свой сьлед, сваю руку. Толькі кароўкам і авечкам больш стала прастору на зжатым полі.

А глянеш на лес! Ці той гэта лес? Як адмяніўся ты, чорны, высокі, чуць-чуць засланы сінім туманам, далёкі лес! Яшчэ так недаўна зваў і клікаў і цягнуў к сабе ты ў гарачы летні поўдзень пад свой цень і так ахвотне хаваў ты чалавека і жывёлу ад пякучаго сонца пад густою стрэхаю зялёных сваіх лістоў. Тысячы галасоў ўсякіх птушэк, вясёлы іх шчэбет рассыпаліся ў тваім гушчары, і ціхі спакой навеваўся на душу тваею доўгаю, густою мовою, лепетам тваіх лістоў і галін. Эх, гутарлівы лес! Люблю я цябе, люблю твой шум, халадок тваіх листоў і твой здаровы смаляны запах. А цяпер ціха і глуха і ў лесі. Птушкі перасталі сьпеваць, лісьця пажоўкла і па троху асыпаецца на дол.

Сонцэ ня грэе так ярка, як бывала ў летку. Кожны дзень яно ўсё нижэй і нижэй ходзиць на небе. Неба часьцей і часьцей засьцілаецца хмарамі. Невясёла пазірае яно, засланае смутнымі хмаркамі, як зааранае поле. Туманы закрываюць ад вачэй Божы сьвет. Дробны дождж ык сеецца, як скрозь сіта. Нудна і непрытульна выглядае ўсё ў восень!

---

## Стогі.

Ой, вы, стогі высокіе,
Дзебёлые стогі!
Вас не згледзіш, далёкіе,
Не злічыш з дарогі!
  І люблю я вас, стажочкі,
  Вежы лугавые!
  Пазаймалі вы грудочкі,
  Як дубы старые.

---

# Асеннiе ясные днi.

Сярод гнiлой восенi выдаюцца часамi ясные, сьветлые днi. Цiха ўсюды. Вецер не скалыхне нi адзiн лiсьцiк, нi адну травiнку. Ласкáвае неба пазiрае на зямлю; нiгдзе нi хмурынкi. Ясна i хораша, ўсё роўна як вярнулася лета, падарыла восень людзём яшчэ некольки ясных, сьветлых i цёплых дзён. Хоць усюды i цiха, цёпла i ясна, так цiха, што чутно, як лятуць пчолкi, як звiняць у воздусi тоненькiм галаском кучкi мошачэк, але ўжо ня вее тым жыцыцем, каторае вiдаць вясною. Куды нi кiнь вокам, на ўсiм убачыш сьлед восенi. Хмурны хваёвы лес чуць заслаўся сiнiм дымком тумана i стаiць не ўзварухнецца, як у якiм задуменьнi; а бярозы, асiны i дубы чырванеюць здалёк сваiм лiсцям i прыпамiнаюць сабою аб восенi. На ўсiм ляжыць сiневаты слой смагi не то дыма, не то тумана. А прыслухаешся—такая цiшыня ўкруг! хоць бы птушка зачылiкала. Толькi каршун адзiн кiдае з вышынi свой крык, i нудна разьлiваецца ён над зямлёю i наводзiць маркоту на душу чалавека. А то часам закрычаць у небе дзiкiе гусi, ключом пранясуцца жураўлi i схаваюцца ў сiнiх хвалях далёкаго яснаго неба, толькi крык iх яшчэ чуваць; потым i ён зацiхае памалу i замрэ, расплывецца ў цiшынi асенняго дня.

Стаiш, пазiраеш, нiчога ня думаеш, толькi сэрцэ смутна б'ецца некiм жалем.

Плаўна носiцца ў воздусi белае павуцьцё, сьцелецца па зямлi, чэпляецца за кусты i сухую траву. Прашло цёплае лета. Апошнiе вы, ясные дзяенькi восенi! За тое, якiе вы цiхiе, якiе цёплые i разам с тым нудные дзянёчкi!

# Першые асенніе ночы.

Ўжо сонцэ зашло, і тонкі дымок тумана падняўся над лесам. Ў небе заблішчалі зоркі; павеяў халадок ночы. Ў вёсцы па хатах засьвяціліся агні. Дзень значна паменшаў, і людзі да цёмна астаюцца на полі, пакуль не скончаць свае работы, і вось цяпер адны вячэраюць пасля цяжкае работы на полі, другіе яшчэ канчаюць працу дня. Вось заскрыпеў апошні воз грэчкі. На дварэ каля гумён чуваць люцкіе галасы. То апозьніўшыеся мужыкі кладуць на торп снапы.

Церэз гадзіну ўсё сьціхае. Гаснуць агні па хатах, і ў вёсцы наступае цёмень і цішыня. Толькі часамі пройдуць вуліцэю два-тры вартаўнікі, курачы люлькі або паперосы і ціха гаворачы. Месяц яшчэ не ўзышоў, а ноч даўно ўжо абняла зямлю і неба. Мільёны зорак дрыжаць і мігаюцца.

Люблю я гэтые ціхіе халаднаватые ночы, што бываюць у канцы лета і на пачатку восені, ночы, каторымі гэтые дзьве пары года як бы адмежаюцца адна ад аднаė. Такіе ночы бываюць у другой палавіне або ў самым канцы серпеня (аўгуста) месяца. Выходзіш на двор. Неба чыстае, толькі па краёх смутна-смутна чарнеюць палоскі хмарак. У вадным мейсцы неба чырвона, і чуць-чуць трапечуцца бляскі агню і асьвечаюць кусочэк неба пры самай зямлі, пакрыты тонкім слоем далёкіх хмар. У другім, на полудзеннай старане, блішчыць зарніца. Бляск не перастае ві на адну мінуту. То там, то сям вырываюцца яркіе палоскі сьвету. Палоскі гэтые борзда бягуць адна за аднэй і яшчэ барджджэй гаснуць, чуць пасьпеўшы на адзін момэнт асьвяціць край неба. І ўсё гэта так скора ўспыхівае, тухне, што здаецца, як бы некі віхар са страшнаю сілаю раздымае кучу вугальля. Зарніцы запаляюцца, прападаюць. Дарма вуха прыслухіваецца да грому: ўсё ціха! Што гэта? Далёка-далёка бушуе негдзе

навальніца, і толькі адблянскі маланкі ловіць вока на краю чорнаго неба. Божэ! які дзіўны образ—адно толькі адбіцьце Твайго гнева!

А ноч! што за ноч! Якая ціішыня, якая ціішыня! І да самаго ранку, покі не стане відно, гуляюць на краю неба зарніцы. І многа кажэ для сэрца і. розума чалавека гэты спакой, гэты дзіўны образ ночы!

---

## Прэд навальніцэю ў ночы.

Меж Ільлёю і Спасам пачынаюцца чуць ня кожны год дажджлівые дні. І дажджы з громам і маланкамі найчасьцей выпадаюць у ночы. Цэлы дзень парыць, клоніць ка сну. Усё значыць на дождж, хоць неба і чыста, і ярка сьвеціць сонцэ. А як толькі яно зайдзе, на краю неба з'яўляюцца хмаркі; скора растуць яны і вылазяць з за лесу. Грозные хмары с чырвонымі краямі, агромнымі клубкамі ціха і важна націскаюцца на неба. Як толькі сьцямнее, пачынае бліскаць маланка, але грому яшчэ не чутно. А хмара ўсё паўзе і паўзе, усё большую і большую займае часць неба.

Ў ночы маланка мае свой асобны образ, свае хораства і цікавасць; у ночы і голас грома мае свою асобную грозную музыку, поўную нейкаго няведомаго страху, каторы трудна перэказаць словамі, каторы толькі можна чуці душою, каторым бьецца сэрцэ ў некім салодкім заміраньні і чэканьні.

Укруг так ціха: ні ветру, ні шуму, ні гоману трывожнаго дня. Спакой і ціішыня ночы даюць можнасць праследзіць грозную і дзіўную музыку грома, як ён родзіцца ў далёкім небе, як крэпне паволі, разліваецца грукатам ва ўсіх кутках соннаго сьвету, над лесам і полем, у горах і далінах, у безграничным прасторы высокаго неба; як адзываецца яму на зямлі эха сотнямі галасоў; як страшнымі

хвалямі садрыгнецца воздух, і забражджыць дробным бражджаннем кепска апкітованая абалонка (шыба) мужычае хаты, забражджыць жалабна-жалабна, як горкіе слёзы нядолі; як важна пракоціцца ён над зямлёю і памаленьку заціхне негдзе ў хмарах...

А маланкі ўсё бліскаюць і бліскаюць. Самы слабы сьвет яе, каторы не ўбачыш у дзень, ясна відаць у цёмную ноч: Вось чаму і навальніца ў ночы мае болей грозны образ, як у дзень. Прыглядзьцеся! Бледна-чырвоные полосы агню ўспыхіваюць тут і там то аддзельнымі стужкамі, то зьліваючыся ў вадну шырокую рэку агню. Бляск страшна і борзда разальецца па небе то роўнаю паласою, то крывою вогненнаю рэкою, то шырока, размашыста і сьмела блісьне ва ўсе староны, ўсё роўна як разарвецца там, у хмарах, вялікая, грозная лявіна *) агню. І на адзін момэнт вынікаюць с цемені ночы і купчастые пярэдніе клубы хмар і сівые кучкі раскіданых па небе, як крыгі па вадзе, хмурак. Цьма разрываецца—выскачыць далёкі лес, гляне круглае поле на ўсю даль, марскануць хаты і гумна, блісьне высокая цэрква разам з вянком ліп, клёнаў і бяроз, яе акружаючых, і мільёны лістоў адальюць золатам і дзіўна хораша абрысуецца зялёны яблык цэркоўнае вежы высока ў небе.

---

## За́хад сонца.

Ў полі ціша́е. Лес засьцілаецца па малу лёгкаю, рэдкаю сеткаю змроку, стаіць, не скалыхнецца ні адною галінкаю,

*) У высокіх гарах у снежну зімку бывае, што сьнег таючы ў адлігу пачынае каціцца з гары ў даліну. Чым далей, тым больш зьбіраецца сьнегу і бывае, што коціцца кумяк сьнегу, большы за вялікі касцёл. Гета называецца лявіна. А за тым і ўсё вялікая, што, здаецца, можэ заваліць, заціснуць ўсё сабою—называюць так сама лявіна.

ні адным пажаўцеўшым лістком сваім. Над зямлёю ўздымаецца белы пар і лёгкаю плёнкаю дыму зьвісае над полем на вышыні палавіні леса. Народ пачынае сходзіцца ў вёску, то па адным, то па два, то цэлымі кучамі; ідуць, моцна гаворацъ, сьмяюцца і напоўняюць ціхае поле вясёлым сьмехам і гоманам.

Стадкі ідуць с поля. Бягуць трушком сьвінні, рухкаюць, падымаюць па вуліцы пыл і рассыпаюцца па дварох. За імі ідуць авечкі, бляюць усякімі галасамі, а ззаду важна ступаюць кароўкі, жуючы жуйку (жвачку). Дзеці аж ґіжаць на вуліцы, ганяюць авец, громка сьмяюцца і пераклікаюцца. Вёска зноў ажывае. Заскрыпелі калодзезі, падняліся высока роўнымі слупкамі дымкі с коміноў. Голас людзкі, мыканьне кароў і блеяньне авец,—усё зьлілося ў адзін гул і гоман. На траве і лісьці неўзнаку выступаюць чысьценькіе капелькі расы.

А сонцэ зусім нізка,—здаецца, адным сваім краем упіраецца ў зямлю. Патух яго яркі днеўны бляск, і само яно зрабілося чырвонае, круглае, вялікае. Вось ніжняя часць яго ўрэзваецца ў вузкую тонкую палоску хмаркі і выплыла, перарэзаўшы яе. Палоска, як абручык, як паясок прыходзіцца ўжо па сярэдзіне. Вось яно хаваецца глыбей і глыбей у зямлю. Адну толькі палавіну яго відаць, ды і тая ўсё звужаецца, і вось адзін толькі яго беражок блішчыць над зямлёю. Яшчэ мінута—і ён схаваецца, патухне, як апошняя іскорка на вугольчіку, зыдзе, як апошни вясёлы сьмех с чыстаго твару добраго чэлавека. Толькі роўны, сьветлы слупок уздымаецца над ім, ды і той скора меркне, бледнее, расплываецца, зьліваецца с сьветла-чырвонаю палоскаю неба. І ўвесь Божы сьвет накрываецца чорнаю коўдраю ночы. З за лесу чуць-чуць вырэзаюцца чорные хмары няроўнымі грудамі рознай формы, з яркімі, як апцягнутымі залатою тасемкаю, краямі.

---

# Школа.

## I.

Ідучы па вуліцы, Міхась, семігадовы хлопчык, часта затрымываўся каля аднаго дома ў сяле. Гэты дом не падобны ні на адну хату ў сяле. Ён быў шмат большы і высшы за нізенькіе мужыцкіе домікі і быў накрыты не саломаю, як усе будынкі, а гонтамі. Высокі ґанак, на таўстых круглых слупох, значна выступаў ад даху і такжэ быў накрыты гонтамі. Вялікіе сьветлые вокны з белаю шалёўкаю і такімі жэ вакеніцамі прыветна глядзелі на вуліцу. А над вокнамі, чуць не каля самаго даху, была прыбіта невялікая дошка з некім малюнкам не то са зьверам, не то с птушкаю з дзьвюмя галавамі. На дошцы стаялі некіе значкі роўненькім радочкам. Што то былі за значкі, Міхась ня ведаў. Казалі, што гэта—літэры, каторые можэ разбіраць толькі той, хто будзе хадзіць у гэты дом, а дом той завецца школаю, і што літэры гэтые азначаюць цэлае слова. І Міхась ўсякі раз, як прахадзіў каля школы, чуў ў сабе некі страх, бо маці не раз яго страшыла гэтаю школаю, як ён часам пачне за лішне гуляць у хаці.

— „Ось, хіба аддам я цябе ў школу!“—казала яна: „ось, ты там падурэеш—пааткручвае табе вушы вучыцель“.

А сябры яго, каторые хадзілі да школы, шмат расказвалі яму пра яе цікаваго. Па іх расказу і школа і сам вучыцель зусім не былі страшные, як то успела ўжо злажыцца ў галаве Міхася. І ён сам на свае вочы бачыў кніжкі з усякімі малюнкамі, на каторых вучыліся хлопцы. Страх, як хацелася яму мець такую кніжку. А як дастаць? Трэба йсьці да школы: там толькі і можна дастаць кніжку. А дома пра школу і пра вучыцеля нагаварылі яму

такіх страхоў, што Міхась, здалёк убачыўшы вучыцеля на вуліцы, бег, як магá, на агароды, ў каноплі.

Што ж? а мо' вучыцель ведае, што ён добры жэўжык, ахвотнік падурэць, пакруціцца і забегчы часамі ў чужы агарод, або ў сад. Чуў Міхась за сабою гэтые грэхі і доўга сьледзіў вачамі с канапель, покі не схаваецца вучыцель з відавоку.

## II.

Прышла восень. Асыпалася лісьця з дрэў, агалілася зямля. Птушкі разляцеліся. Насталі кароткіе туманные асенніе дні.

У нядзельку, прышоўшы с цэрквы, сказаў Міхасёў бацька:

„Заўтра пачынаецца вучэньне. Парá і нашэму Міхасю садзіцца за лемэнтар... Годзі, брат, табе бібікі біць, ганяць сабак па вуліцы, пара і за навуку!“

Апошніе словы бацька сказаў да Міхася.

Задрыжалі ўсе жылкі у Міхася. Цэлы рой думак разам пранёсся ў яго галаве.

„Што ж?“ падумаў ён сам сабе: „вучыцца—дык вучыцца!“

Яму даўно хацелася ў школу, толькі баяўся ён вучыцеля, баяўся за свае вушы. Ён думаў, што ў школі яго першаю справаю аддзяруць, як ката.

— „Тата! ці бьецца вучыцель?“ спытаў не без трывогі Міхась бацьку.

— „Як будзеш дурэць у школі, ня будзеш слухаць вучыцеля, будзеш ленавацца (ляніцца) вучыцца, то і будзе біць, ды і я сам не пахвалю цябе за гэта“.

„Ну, не, брат, дудкі!“ падумаў Міхась: „дурэць то я ня буду. А вось, старацца дык буду“.

І ў Міхася як камень зваліўся с сэрца.

На заўтра ўстаў ён рана. Залáтала матка яго сермяжку, ўшыла ґузікі; бацька справіў яму лапцікі.

Умыўся Міхась старанна, нават у вуха ўлажыў разоў са два пальцы, каб выкалыпаць аттуль гразь. (Бацька не раз гаварыў яму, глянуўшы на яго вушы: „ну, брат, у цябе і вушы! хоць рэпу сей!)“.

Пасьнедаўшы на скорую руку і ўзяўшы ў адну кішэню лусту хлеба, ў другую жмень тры гароху, Міхась памкнуўся ўжо йсьці.

— „Глядзі ж, сынок!“ спыніў яго бацька „слухай вучыцеля, бо невучоны—ўсё роўна, як сьляпы; а граматны чэлавек нігдзе не прападзе. Каб я з маткаю цешыліся с цябе... Дык глядзі ж, сынок, не траць дарма часу!“

Гэты простые бацькавы словы разжалабілі Міхася, бо ў яго было добрае і мягкае сэрцэ.

Ў яго нават паказаліся на вочках сьлёзы...

Апцёршы твар рукавом сермяжкі, ён вышоў с хаты і пабег у школу.

## III.

Са страхам узышоў Міхась на ґанак школы і нясьмела ўзяўся за клямку.

Ў школі яшчэ нікога не было.

Школьная сьвятліца паказалася Міхасю такою велічъю, такім хораствам, што ён стаў па сярэдзіне і ня сьмеў ступіць далей. Ўсё тут для яго было нова. Міхась азірнуўся і кашлянуў. Кожны вугалок патхапіў яго кашэль і панёс па школі доўгім шумам. Міхась аж спалохаўся. Аслухаўшыся, ён кашлянуў яшчэ раз, ужо сумыслу, і зноў па школі пашоў шум. Міхась пасьмялеў. Ён падышоў да печы. Вы-

сокая кафляная печ хораша прытулілася да сьцяны, чыста і гладка выбеленой. Міхась павёў па печы рукою, пачуўся лёгкі свіст. Па трошкі страх Міхасёў зусім развеяўся, і ён сьмела стаў пазіраць на ўсё, што было ў школі. Недалёка ад печы стаяла чорная дошка на трох нагах. Меж дзьвярмі і другою сьцяною прытулілася шафа са шклянымі ў версі дзьверцамі, за каторымі стаялі кнігі роўненькімі радочкамі. На сьцяне віселі, як прасьціра́длы, карты са стракатымі лапінамі, каторые, як Міхась пазнаў многа пазней, азначалі часьці света, моры, акіяны, ўсякіе губэрніі, царствы, остравы. Над картамі віселі партрэты і ўсякіе малюнкі. Бо́льшая палавіна школы была застаўлена доўгімі лавамі са скрынкамі. Гэта былі скамейкі, на каторых сядзяць вучні. Па сярэдзіне школы стаяў стол для вучыцеля.

На ґанку затупала некалькі ног. Міхась схаваўся за печ. У школу ўваліла цэлая куча хлопцаў, яго сяброў, і Міхась, усьпеўшы ўжо агледзіцца і пазнаёміцца с класам*), стаў паказываць ім тое, што найбольш кідалася ў вочы яму самому. Гуртам яны судзілі і дагадываліся, на што і для чаго зроблена ў школі кожная рэч.

— „Зараз прыдзе вучыцель“,—сказаў ім сторож.

Хлопцы прыціхлі, і страхам забілася іх сэрцэ. Яны кучкаю зьбіліся каля печы і сталі чэкаць вучыцеля, самаго страшнаго чалавека на сьвеці, як ім здавалася.

## IV.

Праз некалькі мінут прышоў вучыцель.

Ён прынёс с сабою вялікую кнігу с чорнымі во́кладкамі, з наклеенаю на адным боку белаю паперкаю, чарніла і ручку і, паздароўкаўшыся с хлопцамі, паставіў чарніла на стол.

---

*) Клас —пакой, гдзе вучацца, так сама і усе вучні, што вучучыся разам седзяць ў ваднымъ пакоі называющца клас.

„Ну, што, браткі, вучыцца прышлі?“—весела і прыветна спытаў іх вучыцель.

Некатарые хлопцы маўчалі, а другіе і Міхась з імі сказалі:

„Але!“

— „Ну, маладцы, хлопцы! будзем вучыцца“.

Малады вучыцель с прыветным тварам і вясёлым добрым сьмехам адразу спадабаўся Міхасю.

„І чаго я хаваўся ад яго ў каноплі?“ падумаў ён.

— „Наўперэд запішу я вас у журнал“.—Так назваў вучыцель кнігу с чорнымі вокладкамі.

Сеўшы за стол і ўзяўшы ручку, ён пытаў хлопцаў, як каго завуць, як завуць бацьку, якая фамілія, колькі каму гадоў, граматны ці не, і ўсё гэта запісываў у кнігу.

Запісаўшы ўсіх, вучыцель пасадзіў іх на скамейкі (прышлі адны толькі „новічкі“, тые, што вучацца с першае літэры).

Пасадзіўшы, вучыцель сказаў, як называецца той дом, куды яны прышлі, расказаў пра кожную рэч, што была ў школі; як павінны знахадзіцца вучэнікі ў школі, для чаго трэба вучыцца, якая карысць ад навукі.

Потым ён пусьціў хлопцаў пагуляць.

Пабегаўшы па дварэ, вучні зноў прышлі ў школу.

Яна ўжо не страшыла іх сваею навіною. Хлопцы сьмела садзіліся на свае мейсцы і слухалі пільна, што казаў вучыцель.

Міхась і не замеціў, як прайшоў першы дзень навукі.

Весела пабег ён да дому расказаць, што бачыў і чуў ён у школе.

---

# Дарога.

Меж палёў шырокіх,
Як змея якая,
Цягнецца дарога,
Вузкая, крывая.
На абапол грушы
Разраслiся ў полі;
Нізенькі яловец
Сохне, як ў няволі.
Тут мужык працуе
Чорны ўвесь, як сажа.
Крыж на перакрэстку
Пра пакуту кажэ.
Коціцца цялежка,
Бьецца аб каменьні;
Гаратай на поле
Глядзіць ў задуменьні.
Ой дарога—сьцежка
Вузкая, крывая!
І ты жыцьцё нашэ,
Ты, доля такая!

---

# Адлёт птушэк.

Яшчэ ня ўсьпее агаліцца земля, асыпацца ліст на дрэві, яшчэ ярка грэе сонцэ, а ўжо не чутно галасоў птушэк, і самых іх мала відаць.

Ўжо с серпня (аўгуста) месяца пачынаюць птушкі пакідаць наш край і вылетаюць у цёплую старану. Першые

падымаюць трывогу буслы. Незадоўга да адлёту зьбіраюцца яны ў кучы гдзе-нібудзь на лузе, ходзяць цэлы дзень чарадамі, або стаяць па цэлых гадзінах, усё роўна, як радзяцца яны прэд далёкай дарогай, ці кружацца высока ў небе. Праз некалькі дзён яны прападаюць, выбіраюцца ў вырай.

Нахмурылася неба, веюць халодные ветры, сыпецца дробны дожджык. Вясёлые спрытные ластаўкі нізка лётаюць над зямлёю і ловяць мошэк. Гадзіны праходзяць, на дварэ халадзее, прападаюць мошкі; нечаго есьці ластавочкам. Вось і яны выбіраюцца ў дарогу. Ў палавіне вересня (сенцябра) іх ужо не ўгледзіш. Ранні адлёт іх азначае раннюю зіму.

Поле ўжо апусьцело. Кончэна работа серпа, пачынаюць капáць картофлі. Далёка гдзесьці ў небе плаўна нясецца крык жураўлёў. Прыслухіваешся, падымаеш вочы ў гору, шукаеш чародку жураўлёў. Вось марскнула ў небе чорная палоска. Высока-высока лецяць жураўлі, пастроіўшыся вуглом у два няроўные радочкі, і кідаюць на зямлю свой звонкі, працяжны і нудны крык. Глядзіш на жураўліны ключ, пакуль ён не схаваецца з вачэй. І некі жаль агортвае душу, ўсё роўна як праводзіш у далёкую старану дарагога чэлавека. З якою радасцью сустрэкаеш птушэк вясною, с такім жалем праважаеш іх у восень, як ляцяць яны ў вырай. І памалу ўсе птушкі, каторые прыляцелі к нам вясною, зноў пакінулі нас на ўсю зіму.

Кудыж вылетаюць нашы птушкі і гдзе яны праводзяць зіму?

А лецяць яны далёка, ў поўднеўные староны, ў тые староны, каторые лежаць на поўдзень, гдзе зімы сусім не бывае. Але ня ўсе птушкі, што пакідаюць нас на зіму, злетаюцца ў адно мейсцэ. Некаторые з іх, так называемые *зернеядные*, астаюцца ў поўднеўных расейскіх губэрніях, гдзе яны могуць знайсьці сабе корм, і жывуць там да тых пор, покі ў нас стаіць зіма. Другіе, *кузулькаядные*, ка-

торые кормяцца кузулькамі (ўсякімі мошкамі, мухамі, камарамі), лецяць надта далёка, гдзе зімы ніколі не бывае.

Многа бяды і гора прыходзіцца выцярпець нашым мілым птушкам у далёкай дарозе, покі залецяць яны на зімовые кватэры. Некаторым прыходзіцца пералетаць моры, і многа іх прападае ў дарозе ад буры і ўсякіх небеспечнасьцей, як ад чэлавека, так і ад драпежных птушэк.

У выраі нашы птушкі гняздоў ня ўюць і песень не сьпеваюць. Віць свае гнёзды і вывадзіць дзетак яны прылетаюць на сваю родзіну. А родзіна-бацькаўшчына іх тут, у нас.

І так робіцца з году ў год: як толькі зіма з яе завеямі, марозамі і сьнегамі зноў зьменіцца цёплымі днямі вясны, пакінуўшые нас у восень птушкі зноў варочаюцца назад.

---

# Якую карысць прыносяць нам птушкі.

Гуляў вучыцель с сваімі вучнямі ў полі. Вышоўшы з душнае школы на прыволье, на прастор, дзеці весела бегалі, крычалі, даганялі адзін аднаго. Іх маладые галасы радасна разьліваліся ў полі.

Вось адзін вучэнь спужаў птушку. Ён падняў ужо камень, каб шпурнуць ім у яе. Ў яго не было ні злосьці, ні жаданьня забіць бедную птушэчку, а проста так хацеў кінуць каменем, бо рукі сьвярбелі, і магло стацца, што камень гэты папаў бы ў невіннае Божае стварэньне. Вучыцель заўважыў і стрымаў вучня.

— „Кінь камень“!—сказаў вучыцель.

Вучэнь кінуў камень на зямлю.

— „Ну, а цяпер ты скажы нам, за што ты хацеў забіць птушэчку?“

Вучэнь маўчаў, апусьціўшы вочы. Ён і сам ня мог растлумачыць сабе, за што ён хацеў забіць птушку.

— „Птушкі—нашы добрые прыяцелі“, сказаў вучыцель:—„і не ганяць і біць іх трэба, а трэба старацца даць ім прытулак, апеку, любіць іх. Птушкі бароняць нашы сады, поле, гаі, лясы ад шкодных чарвей і мошэк. Каб не было птушэк, то развялося б так многа чарвей і мошэк, оўр ад іх пагінула б уся праца гаспадара. Ці за гэта штоба ганяць і зніштажаць птушэк?“

прэ „А колькі ажыўленьня і хораства прыдаюць яны нашэй п ыродзе? Ўспомніце, як ахвотне вы слухаеце вясною дзіўную ше ьню салаўя, як заліваецца ён у ціхі, цёплы вечэр вясны ссткустох над ручайком; срэбраные трэлі жаваранка ў вы-кім небе, мілы шчэбет ластаўкі, чыліканьне ўсякіх пту-эк, ад каторых гамоніць кожны куськік, гай і лес.

«Кожны з вас, дзеці, любіць жыцьцё, і яго трэба любіць, бо гэта любоў скрашывае чэлавеку самые цяжкіе і трудные мінуты яго жыцьця. Ня толькі чэлавек, а і птушка, і ўсякае Божае стварэньне мае гэту любоў, усім роўна хочэцца жыць на сьвеце, і ўзяць ад жыцьця і радасць, і горэ, і ўсё тое, с чым спатыкае яно кожнаго. Чэлавек—тое ж Божае стварэньне, толькі самае разумнае меж усімі, і кожнае стварэньне мае такое ж права на жыцьцё, як чэлавек. І той чэлавек, каторы адбірае права гэта ад другіх, уніжае сам сябе. Дык не адбірайце ж, дзеці, таго права, каторае дано і вам, і іншэму стварэньню Божэго сьвета. Ніколі не марнуйце чужога жыцьця і шчасьця.

«Старайцеся вучыцца ня толькі ў школі па кнізе, а вучыцеся і на кнізе Божае прыроды, каб знайсьці свае мейсцэ меж другіх Божых твораў“,—закончыў сваю мову вучыцель.

## Позная воень

Апусьцела поле. Работы на ім даўно скончэны. Пуста і гола ўсюды, толькі маладое жыта адно зелянее ў полі і рэзка выдзеляецца сярод мёртваго образа асенняго часу. Пачарнеў шырокі луг; адны толькі парыжэўшые фігуры стогаў з востраю жэрдкаю ў версі раскінуліся па грудох і нудна пазіраюць у неба. А само неба, закрытае сівымі хмарамі, так хмурна і непрытульна глядзіць на зямлю і шчыра сее дождж, як сьлёзы нягоды.

Чорны лес шуміць без прэстанку, калыхае сваймі голымі верхавінамі, размахівае лапамі і сьцёбае галінаю галіну. Неспакойны сярдзіты вецер вее, як дзень, так ноч, падымае мокрае жоўтае лісьця, разносіць яго па полі, ўсьцілае ім дарогу і гоніць хмары за хмарамі і заліваецца нуднымі песьнямі ў коміні мужычае хаты, як бы просіць ён там сабе прыпынку, або хочэ выдуць с хаты жменьку цёплаго духу. Глуха шуміць голая верба над страхою і вокнамі.

Глуха і пуста на дварэ; хоць бы гдзе голас чэлавечы, хоць бы крык птушкі... Адны вароны і галкі жаласна крычаць і кружацца над апусьцеўшым полем.

Нехай бы, здаецца, закрываў скарэй сьнег гэту мокрую зямлю, гэту гразь і плюхоту!..

---

## Восень.

Пуста ў лузі. Толькі стогі
Парыжэўшые стаяць,
Ды гракі каля дарогі
Цэлы дзень адно крычаць.

Грэчка зжата. Гола ў полі;
Жыта звезена даўно.
Толькі плаваюць на волі
Кучы хмар, як валакно.
Дожджык сее без прэстанку,
Вецер сьвішчэ, так як зьвер...
Колькі лужын каля ґанку!
А гразі... гразі цяпер!..
Ссохлі травы. Ўсё павяло;
Слоць, плюхо́та, холад, цьма...
Эх, скарэй бы закрывала
Зямлю чорную зіма!

---

## Асенні вечэр.

Вые бура. Лес гамоніць,
Як на сходзе гдзе народ.
Вецер хмары так і гоніць;
Дождж, і гразь, і галалёд.
На камінку корч пылае;
Каля печы дзед сядзіць.
Бацька лапці папраўляе,
Маці ніткі села віць.
Вецер вые, не сьціхае,
Дзіка ў коміне шуміць,
То заплачэ, засьпевае,
То па стрэсе прабяжыць.
Ціха ў хаці. Сэрцэ ные,
Душу страх апанаваў.
Чаму ж, вецер, думкі злые
Ў душу ты маю нагнаў?

---

# У восень.

Дзень маркотны, не-вясёлы...
Па зямлі пашоў туман.
Чуць відаць і лес, і сёлы,
Чуць відзён із мглы курган.

Дробны дождажык без прэстанку,
Як скрозь сіта, ўсё імгліць.
Гразь настала каля ґанку,
С капежа ўсё капаціць.

Толькі жоўты лісьцік клёна,
Як пяро на ніз ляціць;
Толькі галка і варона
Нудна ў полі закрычыць.

Хмары сонейка закрылі,
Зор у ночку не відаць.
І на сэрцы, як ў магілі...
Плакаць хочэцца, стагнаць...

# Зіма.

Эх, ты, зімэнька-зіма!
Непагодная была:
Ні праехаць, ні прайці,
Ні коніка правесьці!

(*З народных песень*).

Крэпка скаваў мароз голую зямлю, зрабіў яе цьвёрдай, як камень. Вымерзлі лужынкі, высахла гразь; халодная кара́ лёду крэпка легла на рэкі і азёры. Цьвёрдую пасьцельку прыгатаваў мароз для мягкаго, белаго сьнегу. Чакае ўсё гэтаго сьнегу, каб закрыцца хоць гэтай халоднай коўдрай ад пякучаго марозу.

Вось падуў сівер, і папоўзлі па нэбі сьнегавые хмары, сівые, лёгкіе, як дым, халодные, непрыветные і завалаклі ўсё неба. Вось, ціха лётаючы па ветру, закружыўся белы, лёгкі пушок, камячок сьнегу, перэвярнуўся некольні разоў, памкнуўся з аднае стараны ў другую, як бы выглядаючы лепшэе мейсцэ, і не чутно лёг на мёрзлую зямлю. За ім паказаўся другі, трэцці, і ўсё часьцей, усё гусьцей залёталі гэтые белые, халодные матылёчкі зімы і пасыпаліся на зямлю. І як жэ многа іх закружылася ў небе! Аж пабялеў воздух, і белая сетка сплетаецца з іх. Валяць і валяць белые сьнежынкі; адзін аднаго перэганяюць гэтые харошэнькіе камячкі, злепліваюцца ў воздусі і кладуцца на зямлю. Борзда бялее земля. Сьнег роўнаю плёнкаю кладзецца на хаты, на гумны, на парканы, на плоты, на шулы, на ўсё, што ні сустрэне прэд сабою.

Назаўтра, праз ноч, выходзіш на двор. І пазнаць трудна Божы сьвет: так адмяніў яго сьнег! Гляньце на шулы!

Да праўды, аж сьмешна: стаяць усе ў рад і ў кожнай на версі па белай шапцы-кучомцы; стаяць, пазіраюць, усё роўна як у госьці прышлі. На стрэхах ляжыць цэлы слой сьнегу, як хто палотны парассьцілаў. Куды ні кінь вокам, ўсюды бела і бела, аж вочы адбірае. Вун стары лес. Адзеўся, прыбраўся, як у сьвята, і глядзіць, як нема ведама хто. Проста дзіваў натварыў гэты сьнег-жартаўнік: цэлае войска прывёў за ноч старых баб і дзядоў!

Прыціхла рэчка, і закрыў яе зусім сьнег, так што і берэгоў не відаць. Усюды, куды ні глянь—адна белая пялёнка сьнегу. І луг, і поле, і горкі,—ўсё засыпана белым халодным пухам.

Весела выскачылі на вуліцу с хаты дзеці. Рады яны першэму сьнегу. Бегаюць, крычаць, пхаюць адзін аднаго ў гурбы, кідаюцца сьнегам. Але з зімою малые жарты: шчыпне яна іх за нос, за вушы, і бягуць дзеці са двара ў хату.

— „На печ лезьце!“ крыкне на іх бацька ці маці.

---

# Зіма.

Белым сьнегам заметае
Вецер чорные паля;
Кажух белы адзевае
Наша родная земля.
Мягкі сьнег летае пухам,
І канца яму німа,
І нясе сярдзітым духам,
Дзікім сіверам зіма.

Зачыняйце шчыльна хату,
Каб ня дулі халады:
На вакно пляціце мату,
Каб не клаў мароз сьляды.

Даставайце з вышэк сані—
Гайда сьцежкі праціраць!
І па белым акіяні
Ўдоўж і ўпоперэк гуляць!
Ды уздзеньце рукавіцы—
Гдзе з марозам жартаваць!
Рады белай мы зіміцэ,
Рады з ёю мы гулять.
Гэй, вы, коні! гэй, малые!
Што заснулі? весялей!
Гэй жэ, бегам, залатые!
Варушыцеся жывей!

---

## Зіма ў вёсцы.

Выпаў першы сьнег і таўстым слоем закрыў зямлю. Вышлі мужчыны с хаты з лапатамі і давай прачышчаць сьцежкі к хаце, к гумну і хлеву. Кончылі сваю работу калёсы і стаяць гдзе-нібудзь пад паветкай, або ў гумне, да самае вясны. Іх заменяюць сані. Достаюць іх мужычкі з вышэк; апраўляюць заваратні, круцяць новые з лазовых дубцоў або с куска вяроўкі; прымайстровываюць аглоблі. Прыбраўшы і наладзіўшы, едуць у лес па дровы, ці ў зарабаткі, праціраюць першые зімніе дарогі. Сані не чутно плывуць у мягкім сьнезе, весела хрыпяць і пырхаюць коні, дружна бягуць, толькі белые кумячкі сьнегу лецяць ва ўсе староны с пад іх капытоў.

Жонкі ў хаце робяць сваю работу. Прадуць кудзелю, лён, воўну. Кароткіе зімніе дзянёчкі. Толькі што развідніцца як мае быць—глядзіш, ужо поўдзень, а там і вечэр. Дзеўчаты с прасьніцамі зьбіраюцца вечэрамі гдзе-нібудзь у хаце прасьці кудзелю. Колькі сьмеху і шуму там, гдзе зьбярэцца маладзёж! А прыдуць яшчэ хлопцы—жарты і сьмешкі

ня зводзяцца ні на мінуту. А то пачнуць сьпеваць песьні, казаць казкі. Акружаць дзеўчаты якую-нібудзь старэнькую бабку. „Цётачка! разскажы нам казачку!“ просяць яны старую. А старая на першых парах не згаджаецца, потым пачне доўгую-доўгую казку, за ўвесь вечэр ня дойдзе нават да канца. І часам такіх нагаворыць страшных казак, што дзеўкі да дому баяцца ісьці.

---

# Зімніе халады.

Разагнаў вецер з неба хмары, і глядзіць яно холадна і сярдзіта. Сярдзіты вецер як нажом рэжэ ў твар, забівае дух. Сонцэ блісьне на некалькі гадзін на краю неба і зараз жэ хаваецца. Чырвоные слупы на заходзе граюць на небе халодным полымем. Гэтые слупы значаць на вялікі мароз. Шыбы мужычых вокан замуроўліваюцца марозам. Якіх толькі цацак не наклаў ён на шыбы! Белые лапы, як дубовае лісьця, густа налазяць на вокнах адна на адну. Дым шырока і роўна зьвісае, як слуп, над комінамі і з вялікім трудом падымаецца ў гору і там сплываецца ў цэлую белую хмару. Сані скрыпяць, і пішчаць, і сьпеваюць песьні пад дудку мароза.

Людзі стараюцца адзецца што найцяплей, націскаюць глыбей на вушы шапку-кучомку, апкручваюць іх хусткамі або башлыкамі. З марозам кепскіе жарты: ня любіць іх стары. Вусы і барады парабіліся белые ад марозу; волосы сплетаюцца ў драцяную сетку. Не дае мароз мужыку сядзець на санях. Конік бяжыць, скрыпяць сані, аззаду, ўляпіўшыся за палукошэк, бяжыць і мужык, сумыслу тупае крэпка нагамі, каб не даць іх на здзек халоднаму сярдзітаму дзеду-марозу, бье рукамі аб плечы, цісне імі вушы ды мароз яшчэ хваліць. Конікі, пакрытые белым марозам, дружна бягуць і пырхаюць; белы пар падымаецца над імі.

Сярдуе мароз, цісне ўсё, што ні сустрэне, ў сваіх халодных руках. Усюды хочэцца яму пралезьці. Атчыні дзьверы ў хаці—ён як тут і быў: так і коціцца цэлым клубком пару ў хату і хапае за ногі баб і дзяцей. Гуляе па даху, сьціскае яго ў сваім халодным абніманьні так, што той стогне і трашчыць. Нікога не жалее мароз, усіх ён цісьне; бегае па лесі, перэскаківае з аднаго дрэва на другое, наганяе страх на зьвероў сваім трэскам. Усё пахавалася, і ходзіць мароз адзін, нікога не баіцца, ўсіх пужае.

## На гасьцінцы.

Белым інеем пакрыты
На гасьцінцы берэзняк,
Сьнегам космы ўсе абвіты,
Ў белым сьнезе маладняк.
Сьвішчуць сані на марозе;
Коні пырхаюць, хрыпяць;
Крык і гоман на дарозе,
Бомы стогнуць і звіняць.
На марозе пабялелі,
Вусы, сьвітка, барада;
Толькі шчокі счырванелі
Ад мароза і труда.
Перэд сьвятам заработкі.
А дарога — як сьлеза;
Толькі бухаюць калодкі,
Толькі сьвіст ат палаза.

# Мяцеліца

Сівые хмары неспакойна забегалі па небе, як воґеры па вадзе. Падняўся вецер, густа і працяжна зашумеў стары лес на ўсе галасы. А хмары бягуць, сьцелюцца ніжэй, гладчэй, раўней і аблегаюць усё неба. Пасыпаўся сьнег мільёнамі камячкоў дробнаго, мягкаго пуху. Залёталі, закружыліся яны халодным пылам. А вецер крэпчае, ўздзірае сьнег знізу ў полі, падымае яго ў гору, круціць стаўбамі, і белы віхар сьнежнаго пылу далёка прамчыцца па полю. Сьвішчэ вецер, нясе белы пыл у кожны куточэк, у кожную дзірачку, круціцца, налетае з усіх старон, і ўсё, што ні сустрэне на сваёй дарозе, апсыпае халодным сьнегам. Неба мешаецца з зямлёю. Ўсюды, куды ні глянь, бель і бель, і ня можэ вока абняць гэту белую сьцяну. А як заліваецца вецер у полі! Сьвішчэ ён у платох дзікім зьверэм, уздзірае саломяные стрэхі, налетае на голые адзінокіе дрэвы, варочае кожную іх галінку, кожны сучок, і дрыжыць усім сваім целам беднае дрэва.

Што за песьні сьпеваеш ты, вецер? Многа нуды і жалю ў гэтых свабодных, размашыстых тваіх песьнях! Аддаюцца яны ў сэрцы дзікім разгулам незнаючэй стрыманьня злосьці, нудным стагнаньнем пакутніка-бедака, горкімі слязьмі, неуцешным жалем нешчаснае мацеры над магілкаю свайго дарагога дзіцяці, ціхаю скаргаю долі мужычае! Аб чым жэ ты плачэш, свабодны вецер? Цесна табе тут? мала прастору тваім шырокім крылом?

Борзда насыпаюцца гурбы, сьнежные курганы, гіне дарога, ўсё зьліваецца ў адну белую пялёнку. Страх нападае на душу дарожніка, катораго захопіць кудаса (ўюга) ў дарозі.

О, не давядзі, Божэ, зьбіцца з дарогі ў полі і слухаць гэтые свабодные, гэтые дзікіе песьні ў час буры і ўюгі!

# У мяцеліцу.

Ох, густые былі хмары!
І валіў жэ белы сьнег!
Ну, канец, я думаў, будзе:
Бог скараў мяне за грэх.
  А укруг лежало поле...
  Цемень, ноч... Загінуў сьлед.
  Бура песьні так сьпевала,—
  Думаў я, сканчоны сьвет.
Нікнуў дух і сэрцэ ныла.
Страх мяне апанаваў;
Думаў я, што вецер ў полі
Мне магілу гатаваў.
  Але бліснуў месяц ясны,
  Мне дарогу асьвяціў,
  А сабачы брэх далёкі
  Праважатым маім быў.

---

# Зімні вечэр.

Лес шуміць не'к вельмі нудна.

Лес рэдка калі маўчыць. Прывычнае вуха ловіць у ім галасы, але ніхто яшчэ не сьцяміў тайнай яго мовы. Толькі сэрцэ смутна адгад'вае ў ім нуду ці трывогу. Касматые хваёвые і яловые галавы трасуцца, яку дзікім танцу. Лапы то апускаюцца, то падымаюцца, як рукі, якбы ловячы навідзімаго варога, каторы не даваў спакою і запраўляў трасьціся лес.

Лес шуміць, нудна шуміць стары лес, дзіка шуміць.

Чулі вы, як шуміць стары лес зімою, ў позны вечэр, як сярдзіты вецер надрываецца і плачэ за вакном? Голые лапы бярэзіны і дуба выюць без канца, густа выюць, як невядомые зьвяры. І здаецца, што то ваўкі выюць з голаду, а вецер разносіць іх скаргу; здаецца, невядомая птушка лапочэ страшнымі крыламі і запаўняе лес гэтым шумам...

С краю леса стаіць адзінокая хатка палясоўшчыка. Маленькае ваконцэ хаткі смутным значком пазірае ў поле, ў цёмную ноч. Над самым ваконцэм зьвісла голая вербіна і глуха шуміць, усё роўна як стогне. А вецер сьвішчэ і сьвішчэ нудные песьні ў коміне на ўсе галасы.

— У-у-у! О-о-о!

Хатка крэхчэ, як старая бабка.

Позны вечэр. Дзеці сьпяць. Маленькая лямпачка смутна сьвеціць у хаце. Агонь баязліва дрыжыць, і чуць відны цень скачэць на сьцяне.

Сон не бярэ лясьнічыху. Чэкае яна свайго мужа, і думкі, невясёлые трывожные думкі аб мужу, не даюць ёй спакою. Часта выхадзіла яна на двор, прыглядалася ў цемень ночы, прыслухівалася да шуму лесу. Але ніхто не даваў ёй атказу на яе неспакойные думкі. Толькі вецер апсыпаў ле сьнегам, трэпаў на ёй адзежу, і яна зноў ішла ў хату.

А ўюга за вакном заліваецца на ўсе галасы. Вецер налетаў нежданна, аж стрэха трэшчала ў яго крэпкім абніманьні. А якіе песьні сьпеваў ён у коміне! Нудою ў сэрцы адзываецца гэты плач ветру. Жаласна ён плачэ ў коміне мужычае хаты.

Вось, ён завёў тонка, доўга. Потым пачынае трасьціся, калаціцца, што раз барждэй-барждэй, і зыкі плывуць, перэплетаюцца дробнымі трэлямі, пераходзяць у сьлёзы, горкіе частые сьлёзы, ў нуднае стагнаньне. Потым адразу абрывае, пачынае тоўста, працяжна, а потым — танчэй-

танчэй і канчае нудным сьвістам. Здаецца, што нешта жывое ўляцело ў комін, зачынілося там, шукае дарогі выбіцца аттуль, не знаходзіць і роспачным голасам аплаківае сваю горкую долю. Бытцам злосць забірала яго, што ў маленькай хатцэ ёсць жменька цёплаго духу і што тым, хто ў хаце, не страшна яго дзікая сіла. То як бедакдарожнік, боязліва ён стукаў ў ваконцэ, то як хват, сарві-галава хлапец, моцна біў у дзьверы, са скрыпам атчыняў іх і ўцекаў з вясёлым сьмехам.

Ціха ў лясьніковой хаце. Только чутно было, як спалі дзеці; гдзе-сь у запечку ціханька чычыкаў шашэль, як зэгарак, схаваны ў кішэні, ды часам стрэха трэсне, як бы ад холаду.

— Я хочу спаць с татам,—крыкнуў маленькі Міхась. Ён толькі што прачхнуўся і ўбачыў, што каля яго сьпіць не бацька, а старшы брат Сьцёпка.

— Мама! яшчэ нема таты?—спытаў ён матку голасам зусім прачхнуўшагося чэлавека, успомніўшы, што бацька не прышоў яшчэ з лесу.

— Нема, сынок! Зараз прыдзе.

Міхась задумаўся.

— І не баіцца ён хадзіць у ночы!

— Тата—вялікі, ды ў яго-ж і стрэльба.

— Мама! а як выскачыць воўк, тата забье яго са стрэльбы?

— Забье, сынок.

— І мядзьведзя забье?

— Забье і мядзьведзя.

— Ну, а разбойніка?

— Разбойнік тату не зачэпіць.

— Чаму?

— Разбойнік бье таго, хто багаты.

Хлопчык зноў задумаўся.

— Мама! А каб гэта гукнуць у коміне? Мо' тата скарэй прышоў бы?

— І так, сынок, скора прыдзе.

— А што гэта, мама, так гудзе ў коміне?

— Вецер, сынок.

Міхась палежаў і заснуў.

А вецер усё сьпевае сваю нудную песьню.

---

# Два марозы.

Гулялі па полі два марозы, два родные браты, мароз Сіні-нос і мароз Чырвоны-нос.

Свабодна гулялі яны на волі, нікога не баючыся, на ўсіх наганяючы страх. Месяц сьвяціў у ночы высока ў небе, тысячы зорак гарэлі сваімі сінімі, чырвонымі агнямі, дрыжалі, пераліваліся. А на зямлі блішчалі на месяцы мільёны сьняжывак. Адны толькі марозы і цешыліся хораствам яснае зімняе ночы, гулялі, пераклікаліся, перабегалі з дрэва на дрэва, з даху на дах, с плота на плот, стукалі, як малаткамі, глядзелі, ці крэпка параблены масты на вазёрах і рэках, ці шчыльна зачынены хаты. На ўсё глядзелі яны, ўсюды яны заходзілі. І хвалілі браты марозы самі сябе, называлі адзін аднаго царамі.

Настаў дзень, заварушыліся людзі. Дым с коміноў падняўся стаўбамі, заскрыпелі студні. Трэба мужыку ехаць у лес па дровы, ў зарабаткі, у млын... Ці мала куды трэба чэлавеку? Нацягнуў мужык суконные порткі, навярцеў на ногі суконкі, на суконкі—анучы і крэпка ўшнураваў ногі аборкамі лапцей. А на сябе апрануў кажух, на кажух нацягнуў яшчэ армяк, насунуў глыбей на вушы шапку, ўзяў рукавіцы, сякеру і, запрогшы коніка, паехаў у лес. Цэлые абозы хурманак пацягнуліся па дарогах. Скрыпяць сані, валіць пар ад коней, зьвіняць званочкі пад панскімі дугамі.

Вось і задумалі марозы Сіні-нос і Чырвоны-нос пагуляць, распраставаць халодные плечы, пажартаваць і задаць страху сьмельчаком, што не пабаяліся на мароз свой нос паказаць.

І пабег адзін мароз, Сіні-нос, даганяць панскі вазок, а другі за мужыком пагнаўся. Цёпла апрануўся пан, закруціўся ў футра, схаваў ногі ў валёнкі ды накрыў іх яшчэ з верху мядзьвежэю скураю. Дагнаў яго мароз Сіні-нос, хоць і доўга гнаўся за ім, залез пану пад футра і давай шчыпаць панскую асобу. Пацешаецца пан, крычыць на хурмана, каб скарэй паганяў коні. Дружна бягуць коні, мёрзнуць панскіе ногі, абрастае каўнер футра белым сьнегам, пабялелі і вусы, і барада. Ледзь даехаў пан у свае цёплые пакоі.

— „Нех его д'яблі з марозам“, вылаяў пан мароза, прыехаўшы да дому, а мароз Сіні-нос толькі сьмяецца і пабег валтузіць другіх ездакоў.

Не так пашанцавала марозу Чырвонаму-носу. Не так то лёгка было справіцца з мужыком, хоць і не было на ім ні футры, ні мягкіх валёнкаў. Дагнаў яго мароз скора, вярсту за ім бег, ня болей, і давай сціскаць мужыцкіе косьці.

— „Ось, каб ты згарэла“! вылаяўся мужык і злез з воза. Крыкнуў ён, сьвіснуў на коніка, бяжыць рысью дробнаю конік, а мужык за ім бяжыць, тупае нагамі, патскоківае, лупіць рукамі аб плечы. Аж у пот кінула мароза, ледзь уцёк ён з мужыцкаго лапця. Нагрэўся мужык, узлез на воз, накладвае ў люльку тутун і забыўся, што і мароз ёсць на сьвеце.

— Стой, брат, дабяруся ж такі я да цябе ў лесі, думае мароз Чырвоны-нос. Кінуў ён мужыка, апярэдзіў яго, забег у лес, сеў там пад ёлку і чэкае мужыка. Вось і мужык прыехаў. Спыніў ён каня, павесіў яму на галаву торбу с сечкаю. Покі мужык вешаў каню торбу і прыбіраў

сані, мароз асьмеліўся, вылез с пад ёлкі і ўжо памкнуўся да мужыка, а як убачыў у руках яго сякеру—назад бегам пад ёлку. Сядзіць пад ёлкаю мароз Чырвоны-нос, сядзіць ды думае, як да мужыка прыступіцца. А мужык, узяўшы сякеру, давай гальлё церабіць. Аж горача яму зрабілася; скінуў ён армяк і кажух, і шапку ссунуў са лба на патыліцу. Мароза злосць пачынала разбіраць: мужык проста такі сьмеяўся з яго! І вот шчаслівая думка прышла ў галаву марозу, аж павесялеў ён. Скраўся ён і сеў на цёплы мужыцкі кажух, залез у рукавы і за каўнер, сядзіць і сьмяецца з мужыка.

— Вось, брат, будзе табе гасьцінец, думае сам сабе мароз і разлёгся на кажусе, як у сваёй хаце, і давай затыкаць шэрсць на кажусе белымі ніцямі. І скора кажух зрабіўся белы, як сьнег. Скончыў мужык сваю работу, сабраўся ўжо да дому ехаць. Ідзе ён браць кажух.

— „Эгэ, браце, як ты прымайстраваўся тут“,—сказаў мужык, на пабялеўшы кажух глянуўшы,—„ці ня думаеш ты зімаваць тут“?

Узяў мужык кажух у адну руку, ў другую пугаўё і давай палоць белые ніці мароза.

Аж у жар кінула мароза. Кідаўся ён і туды, і сюды. А мужык яго трэпле ды прыгаворывае:

— „Ось як у мяне! ось як у мяне! Кажух мой! кажух мой“!

Выскачыў мароз ды драла.

І с таго часу мароз ня мае на мужыка вока аж дагэтуль.

# Куцьця

(Колядны вечэр).

Вось і Коляды недалёка. Чэкаюць дзеці гэтаго сьвята, а найбольш—першае куцьці. Прышла і куцьця. За дзень да куцьці ў хатах прыбіраюць, мыюць сталы, лавы, вокны. Куцьця—важны дзень, адзін раз у год бывае, трэбаж сустрэць яго добра. Хлопцы яшчэ за тыдзень да Каляд пачынаюць рабіць гвязды.

Самы важны момэнт у Колядные сьвяты, гэта—куцьця, або колядны вечэр. Ўся семья стараецца сабрацца ў хату ў гэты вечэр. Мыюцца цёплаю вадою ў ночвах старые і малые: трэба ж ахаяцца хоць раз у год ад гразі і сустрэць важны дзень, як мае быць. Ў хаці нема клапотаў буднаго жыцьця. Ўсё, што не патрэбна ў хаці ў сьвята, выносіцца вон, у сені або ў камору, каб не занімала мейсца. Нават на комінку не разлажылі агню, як у будные дні, а запалілі лямпу. Гаспадыня ўходжваецца каля печы. Старшая дачка або братава памагае ёй. Ўся лава каля дзьвярэй завалена ўсякімі прыпасамі. Тут стаяць і тараны *), і селядцы, і мак, каторы пяць месяцеў вісеў нагарэ, завязаны ў торбачку, і сухіе грыбы. Яшчэ з вечэра запалілі ў печы. Брэнчаюць скавароды (патэльні) аб прыпек, шпчыць цеста на гарачэй скавародзе, і аладкі, як грушы, кідаюцца на зэдлік, засланы чыстым белым настольнікам (абрусом).

— Ну, гатова ў цябе вячэра, ці не?—пытае гаспадар жонку.

— Можна засьцілаць стол, садзіцеся,—атказвае гаспадыня.

З усіх вуглоў хаты пашлі да стала. Покуць займае самы старшы ў хаці—дзед ці бацька. С краю стала са-

*) Рыба такая.

дзіцца сам гаспадар; каля яго ляжыць хлеб, каторы ён кроіць тонкімі лустамі.

На покуці пад абразамі, на мягкім сене, даўно ўжо стаіць гаршчок с куцьцёю. Дзеці бяруць с покуці па жменьцы сена і цярушаць яго па стале, а на сена засьцілаюць чысьценькі белы настольнік (абрус). Некольві мінут у хаці наступае цішыня. Гаспадар хрысьціцца шырока і шэпчэ малітву, абярнуўшыся да абразоў тварам. А цэлы рад сьвятых важна і строга пазірае на стол. А тым часам той, хто сядзіць бліжэй каля аладак, кладзе кожнаму па аладцы, каб было чым закусіць. Па сярэдзіне стала стаіць пляшка гарэлкі. К пляшцы прытуліўся кілішэк — адзін на ўсю кампанію.

Вось гаспадар бярэ бутэльку, зьдзірае печаць і выкалупвае корак шылам ці відэльцам. Гарэлку пьюць па парадку: перш старшые, потым малодшые. Кожны вялікі лічыць сваёю павіннасьцю сказаць перад тым, як выпіць, некалькі слоў, каб даў Бог здароўя і шчасьця.

— Дай Божэ!—атказ'вае той, да каго пьюць гарэлку. На закуску ставіцца смажэная (пражэная) рыба, потым падаецца верашчака з грыбамі, таранамі і селядцамі. За мачаньнем ідзе квас, за квасам ягады з разынкамі і сьлівамі; далей аладачкі на салодкай вадзе, за імі кісель с сытаю, за кісялём пірог, або сьліжы, размочэные ў макавай вадзе, а там і куцьця. Хоць пасля гэтаго і ня хочэцца куцьці, але закон дзедоўскі вымагае, каб хоць лыжку, а з'есьці куцьці.

— Ну, дзеці, пашукаеце заўтра ў сене зернят, якіх будзе больш; калі многа жыта — ўродзіцца жыта, многа ячменю—будзе ячмень, аўса—авёс.

— От хіба наеўся!.. не выцярпіць хто нібудзь з малых пасьля вячэры, каб не пахваліцца—мо', каб хто палажыў жыватом на стале, то закруціў бы на пупі!

Старшые сьмяюцца на такую штуку малога сьмешніка.

---

# Канец зімы.

Атсьпевалі ўюгі свае дзікіе песьні; даволі трэскучые марозы гулялі на прасторы, ціснулі ўсё жывое і не жывое. Прайшлі і Каляды, і крэшчэньне (Тры Каралі), і блізка Грамніцы. Хоць і кажуць: „Грамніцы—палавіна зіміцы“, але ўжо зіма ідзе к канцу. Хоць і неласкава глядзіць яшчэ сіняе неба на зямлю і засьцілае свой образ халоднымі пялёнкамі сьнегавых хмар; хоць крэпка яшчэ дзержацца марозы, але часы ідуць к вясне: бо́льшае дзень, вышэй падымаецца сонцэ, ярчэй грэе яно дзень ада дня, і капае сьнег у поўдзень са стрэх. Сьвятлее ўсюды.

Выйдзеш у поле. Ўкруг яшчэ ляжыць сьнег. Нудна пазіраюць вёскі, засыпаные сьнегам. Нігдзе не чарнее поле—ўсё закрыта сьнегам. Але ў воздусі чуецца блізкая весна. Крывые санные дарогі распаўзліся ва ўсе стораны, крэпка ўбітые палазамі, капытамі мужычых каней. Пачарнела гэта дарога ат цэлаго слоя конскаго гною. Воздух мягчэе, на двара цяпле́е. Далёкі сіні лес ясна выдзеляецца з белізны сьнега, цягнучыся узгоркамі на краю поля. Паласа лесу чуць закрыта сіненькім туманам—знак адлігі.

Чэкаюць людзі вясны. Надаела зіма сваімі сьнегамі, марозамі, ўюгамі і мяцеліцамі. Даволі нацярпеўся холаду чэлавек, намёрзлася скацінка ў хляву. А больш за ўсіх чэкаюць вясны дзеці. Даўно хочэцца ім з душнае хаты на вольны воздух, на двор, на прастор. Чэкаюць яны цёплых дзён вясны, каб выскачыць на вуліцу, пракапаць равок, паставіць самадзельны млынок і пазіраць, як круціць яго каламутны ручаёк—перавальчык. Што ні кажы, а вясною ўсё-ж такі куды лепей!

А весна ўжо не за гарамі. Скора, скора заплачэ зіма халоднымі сьлезамі, скора прыдзе весна, прыляцяць з выраю

птушкі, счысьціцца поле ат сьнегу, зазеляneюць дрэвы, зацьвітуць сады, вырасьце трава.

Эх, тагды будзе раздольле!

Скарэй прыхадзіце к нам цёплая весна, вясёлые, ясные дзянькі!

---

# На прадвесні.

Эх, напёрла ліха — горэ!
Ні сеніны, ні зерна!
А тут сьнег яшчэ ня скора
Згоніць цёплая весна.
    Ані сена, ні грашынкі!
    Хата поўная дзятвы.
    Ні паленца, ні лучынкі—
    Хоць у землю лезь жывы!..
Папалілі, пераелі!
Нічагутка — ані ў зуб!
Хлеба толькі да нядзелі,
На два разы ўсяго круп!
    А даўгоў 'шчэ нахватаўся:
    Таму дзесяць, таму пяць!
    От, гдзе, Грышко, ты папаўся!
    Чым ты будзеш аддаваць?

---

# Родные абразы.

---

## Вясковая дарога.

Вузкаю, крывою стужкаю праходзіць меж палеткаў вясковая дарога. На кожным кроку разбілі яе калдабоіны; шчыра усыпаў пясок, багата на ёй каменьня. То ўзбяжыць яна на горку, то спусьціцца ў лагчынку, цёмною норкаю марскане ў лес, пад стрэху хмурных елін, абагне курган, узгорак, роўнаю палоскаю ляжэ на полі, перэсячэ гай, прарэжэ луг, ускочыць у вёску, згубіцца тут на мінутку і потым зноў выскачыць у поле і зноў пабяжыць калясіць грудзь зямлі.

Люблю я гэту вузкую, гэту трасучую мужыцкую дарогу. Ідзеш адзін у полі па гэтай дарозе. Яркае сонцэ абліваe твар зямлі мягкім цёплым сьветам. Кучамі параскідаліся па небе хмаркі, як крыгі вясною; то круглые, то плескатые, плывуць яны гдзе чародкамі, адна за адною, а гдзе адзінока ў вадну старану неба і прападаюць на краю зямлі, ўсё роўна як уходзяць у зямлю. Над полем кружацца жаваранкі; крычыць гдзесь-то ў небе коршун, трапечэцца ястрэб на адным мейсцу. А дарожка ўсё цягнецца і цягнецца, як разбэрсаны клубок ніцей, узбегае на горкі, абыходзіць балотцы. Ціха бывае часамі на гэтой дарозе! Рэдка праедзе тут панская брычка, запрэжаная параю або

тройкаю добрых, сытых коней; калі-не-калі празьвініць тут пачтовы званок. Часьцей сустрэнецца простая мужыцкая каламажка, каторую дробным трушком пранясе худзенькі мужыцкі конік, падымаючы пыл і пясок, насохшы на сонцы, доўгім слупам; пратарахцяць драбіны сваімі рассохшыміся лёсткамі і с скрыпучімі, даўно ня еўшымі дзёгцю, калёсамі. Цэлы абоз хурманак праедзе ціхім крокам з бочкамі са смалою або вугальлем. Пройдзе мужык-працавік у лапцёх з загарэлым тварам, на каторым відаць невясёлые думкі; убогі, абвешаны торбамі, з разхлістанаю грудзінаю у рваной адзежы...

А укруг, куды ні кінь вокам, параскідаліся нецікавые абразы нашаго роднаго краю, чуць-чуць закрытые туманам, як невясёлаю думкаю,—так знаёмые, так поўные ціхаго, смутнаго хараства. Там і сям чарнеюць бародкі і кудзёркі хваёваго лесу, раскіданаго па краёх поля; ўзгоркі, зарошчые маладым хвойнікам і купчастым ялаўцом. Цёмная ёлка, дзівам уцэлеўшая ад рукі чэлавека, нудна стаіць на отшыбі ад лесу і калыхае касматымі лапамі; кучка бярозак, лагчынкі, балотцы. А там — зялёная купа садовых дрэў панскіх садоў, богатая дваровая будова весёла і горда выскачыць з-за горак, чорнаю плямаю кінецца ў вочы мужыцкая вёска, хораша абрысуецца белы яблык цэркоўнай вежы...

Ўсё гэта так знаёма, так блізка сэрцу беларуса!

---

# Могілкі.

За вёскай, у полі на ўзгорку, прытуліліся мужыцкіе могілкі. Цэлы лес крыжоў, простых дрэўляных крыжоў, нахіліўшыхся, аброшчых мохам, высокіх і нізкіх, гнілых і здаровых, ясна і панятна гавораць аб тым, што многа тут пахавана беднаго, змардаванаго цяжкаю долею люду.

Невялікіе могілкі, апкопаные валам, размытым дажджом, абвеяным ветрам, нудна пазіраюць сярод пешчаных мужыцкіх палеткаў. Гдзе-не-гдзе гнілое бярвеньня даець знаць, што тут калісь-то быў загарожэны паркан. Кучкі насыпанай зямлі, абложэнай дзёрнам і каменчыкамі, показваюць мейсца пахаваных. Сумна скланіліся дреўляные крыжы над гэтымі кучкамі, на каторых лежаць прыклады з дрэва ці, проста, камень. На гэтых каменьнях, чуць абглажэных з аднаго боку, напісаны простые словы, каторые трудна разабраць — так скора ліняюць яны і зменяюць свой абраз. Іншые крыжы чуць толькі трымаюцца ў зямлі на сваей гнілой, пакрытой кучкамі белаго моху,назе. Многа іх, струхлеўшых, пападала на зямлю.

Некалькі рэдкіх дрэў блішчыць на могілках: хворая, каржакаватая хвойка, маладзенька бярэзінка, нахіленая на адзін бок, з белым камелькем і зялёнымі лісточкамі, кучка маладзенькіх ліпак, клён. Нудна трапечуць яны сваімі лісточкамі, ўсё роўна як плачуць на сваю долю, што пасадзілі іх на могілках. А вецер трэпле стужкі і хвартушкі, прывязаные да крыжоў, і адзін толькі плачэ па нябошчыках, пралетаючы над могілкамі.

Нудна на мужыцкіх могілках! Нудно і само ты, мужычэе жыцьцё, і нудны ты, вечны мужычы пакой!

---

## Могілкі.

Круглае поле. Горы, каменьня.
Лес па краёх, як сьцена.
Ціха усюды. Нудна на сэрцы...
Птушка ня крыкне нігдзе ні адна.
  Могілкі ў полі адны адзінюткі;
  Праслы гнілые на землю ляглі.

Крыж нахіліўся, як кветка у буру.
Многа іх, многа ляжыць на зямлі!
Кучка бярозак, верба ды хвоінка.
Вецер развеяў іх, дождж спаласкаў...
От гдзе ад гора мужык атпачые;
От гдзе ён думкі і сьлёзы схаваў.

---

## Пахаваньне.

Чую звон я пудны,
Рэдкі, невясёлы.
Дзень сягоньня будны,
Не сьвяткуюць сёлы.
Чую прычытаньне,
Чую плач я нечы.
Кончыўся заранье.
Век твой, чэлавечэ!
Вось труну я бачу.
Кучка йдзе народа.
Колькі жалю, плачу!
Жонцы мужа шкода,
Мужа маладога,
Добраго Грыгора,
І сабе у Бога
Просіць сьмерці з гора.
Плачуць сёстры горка
Буйнымі сьлезамі.
„Ой, Грыгор, Грыгорка,
„Што зрабіў ты з намі?“
Пара дзетак с краю —
Бедные сіроткі!
Цяжка будзе, знаю,
Вам, мае блазноткі!

Ззаду дзед сагнуўся,
Нудна, жаль сторому;
Падышоў, вярнуўся
Скора поп да дому.
Бабы галасілі,
Дзед стары хрысьціўся...
Ў адзін звон званілі,
Адзін дзяк маліўся.
О, мой братка родны!
Ой, мужык ты бедны!
Ўсё жыцьцё галодны,
Худы, чорны, бледны!
Хто цябе уважыць?
Хто цябе шкадуе?
Хто за стол пасадзіць,
Чаркаю частуе?
Біўся ты, як рыба,
Дома час не ўседзіш...
На тым сьвеце, хіба,
Шчасьце ты угледзіш.
Памрэш — мала знаку —
Ў адзін звон пазвоняць;
Ў яму, небараку,
Кінуць, пахароняць.
Сумна і ціхутка...
Могілкі с крыжамі.
Круцяцца блізютка
Галкі над палямі.
Жаль скаваў мне грудзі
І нуда напала...
Каб вы зналі, людзі,
Як мне цяжка стала!

# Палесская вёска.

Цялежка яшчэ разы два прагрукала па грэблях, перашла бродзік і ўскацілася на горку. Лес расступіўся, і глянула круглая палянка, па краёх каторай цягнулася чорная стужка невысокаго, рэдкаватаго лесу. Гдзе-не-гдзе паразсыпаліся кусьцікі бярозак, лазы і нізенькіх хвоек. На самай сярэдзіне палянкі прытулілася палесская вёска. Хаты так густа зьбіліся ў кучу, што здалёк здаваліся злітымі пад адну стрэху. Высокіе гарбатые жураўлі студней, як панічы у храках, стаялі то там, то сям у вёсцы высока над стрэхамі хат. У бок ад вёскі стаялі могілкі з высокімі крыжамі. Старэнькая дрэўляная каплічка нудна пазірала з могілак і кідалася ў вочы сваею фігураю. Дах на ёй у многіх мейсцох прагніў, аброс белымі барадкамі густога моху, і там і сям зіялі на ім чорные дзюркі. Высокі зялёны клён стаяў над капліцай і кідаў на яе вежу доўгіе тонкіе галіны і аплятаў яе жывою сеткаю, скрозь каторую выбіваўся, пахіліўшыся ад ветру, дрэўляны крыжык. З другога боку капліцы расла кучка вязоў; воддаль адзінока расла хмурная хвоя, раскінуўшы вершыну сваю на прасторы. За вёскаю два ветракі чуць варочалі сваімі крыльлямі, гатовымі спыніцца кожную мінуту. Укруг вёскі густа тоўпіліся стожкі зложэнаго збожа, абгароджэные ў дзьве жэрдкі, стоячы на высокіх патстаўках, як гаршкі.

Цялежка тым часам ўеджала ў вуліцу. С краю вёскі, каля самай дарогі, прытулілася вялізная, як адрына, старая, с пагнутаю стрэхаю, крытаю гонтамі, карчма. На кожным перэкрэстку вуліц стаялі высокіе крыжы, павязаные хвартушкамі с чырвонаю стужкаю. Прызёмістые хаты, накрытые саломаю, гдзе-не-гдзе адгароджэные ад вуліцы частаколам, або просто, плотам, тоўпіліся па абапал вуліцы. Хлеўчыкі, сьвіронкі, варывенькі, клеці, клуні часта ляпіліся

над адною стрэхою. На іншых гумнох і хлевох сядзелі бусловы гнёзды, як чорные шапкі. Шырокая, роўная вуліца, чорная ад гразі, як сажа, была ўся завалена па краёх кучамі гнілога бярвеньня, жэрдзей і ўсякім ломам. Па вуліцы час ат часу праежджае цялежка, ў каторую ўпрэжаны два худые валы-рагалі. Бабы ў кароткіх спадніцах прахадзілі часам с хаты ў хату. Мужчыны-палешукі з расхлістанымі грудзямі, з доўгімі, як у папа, валасамі снавалі па вуліцах. Было сьвята. На вуліцы пападаліся п'яные палешукі. У вочы кідалася іх опратка. Палешукі рэдка меняюць зімовую адзежу нават у летку: той жэ доўгі кажух, падпеазаны шырокім, як шалік, поясам с кутасамі; тая ж облавухая шапка-кучомка; доўгая, белая кашуля, напушчэная на згрэбные порткі; тые ж лазовые лапці, патпляцёные лыкам замеж рэменя. Цераз плечы былі пөракінуты рэменные торбачкі—„каліты", прыбраные бліщчастымі гузікамі, капшучкі, ў каторых палешукі носяць і тутун, і крэсіва, і грошы. Гаворка іх такжэ адметная, хоць і падобная да гаворкі іх братоў беларусаў.

Па вуліцы, як мурашкі, бегалі дзеці с чорнымі ад гразі нагамі, у благенькой адежцы, замазанай гразьзю, чуць прыкрываўшэй іх худзенькае цела.

Нудна ў гэтых глухіх, гразкіх палескіх вёсках, раскіданых па лесі, меж бесканечнага гнілога балота!

## Вечэр на Палесьсі.

Вось пастух ўжэ стадка гоніць;
Вол бушуе і раве.
Вёска ходзіць і гамоніць,
Толькі эха ў лесі йдзе.

С комін дым падняўся ў гору;
Люд сьцекаецца з работ...
Эх, люблю я гэту пору,
Як с палёў ідзе народ!
Мне іх песьні сэрцу мілы,
Хоць і многа ў іх нуды.
Некі-сь жаль казычэ жылы,
Як заграюць дудары.
Сьвіст за сьвістам так і льецца,
Як Палесьсе, без канца;
Як хто плачэ, мне здаецца,
Як сьлеза цячэ з ліца.
А сабакі ім ўтуруюць...
Дудка плачэ, дудка мрэ...
Як ніколі не горуюць,
Як бяда іх не бярэ!

---

# Палесьсе.

Марудна коціцца цялежка, чуць варушыцца кабылка, ступаючы размерэным крокам па гразнай дарозе. Палесская глуш апхапіла нас са ўсіх старон. Лес жывою сьцяною стаяў наабапал дарогі. Касматые лапы ялін і хвой густа перапле-таліся, абвісалі над нашымі галавамі стрэхою, праз каторую каса (луч) сонца прабівалася густою сеткаю, сатканаю с чорных плям цені і сьветлых лапін сонца, і ціха шумелі. Пападаўся часамі вяз, граб, блішчалі бярозы белымі сваімі камлямі с патрэсканаю карою ўнізу; віднеўся таўсты прыземісты дуб с шырокім жрэлам.

То бродзік, то грэбля, каторая дрыжала кожным сваім бярвенцэм, як толькі наежджала на яе цялежка, то пясок, то лагчынкі перасекалі нашу дарогу. Вось пашлі балоты.

І вокам не акінеш іх. Высокая, дзікая трава-асока густа разраслася на гэтых балотах. По краёх разраслася лаза купчастымі кустамі, ў каторых тысячы сарок ў'юць свае гнёзды. Мільёны купін с каржакаватымі (незграбнымі), хвойкамі рассыпаліся па балоту. На абапал балот цягнуўся чорны, нізкі лес. Другі канец іх прападаў ў далёкім тумані. Дзе-не-дзе меж купін цягнулася бліщчастая, крывая, як змея, с крутымі заваротамі стужка вады цёмнаго колеру. Гэта балотные рэкі, которые часта і пачынаюцца і канчаюцца ў адным і тым жэ балоце.

Балоты мінуліся, і зноў пашоў лес, часта перасечэны кускамі поля ў некалькі марґоў, на каторым стаіць часам пастухова хатка, загарад, у каторым начуе жывёла, або цэлая будова ў дзьве ці тры гаспадаркі. Чым бліжэй пад'езжджалі мы да вёскі, тым часьцей пападаліся нам круглые і прадоўговатые полянкі. На некаторых старых, таўстых дзервяках, што раслі каля палянак, стаялі па два, па тры, а то і па цэлых дзесяць вульлёў. Вульлі стаялі радамі; па два ў рад, адны над аднымі прывязаные скручанымі ў вяроўку бярозавымі або лазовымі дубцамі к камлюку дрэва. Ціха і нудна ў дарозі. Часамі толькі да нашых вушэй далетала жалобная, доўгая, як палесскіе балоты, песьня пастухоў; кукавала зязюлька, крычаў 'додзік *), пералетаючы з аднаго дрэва на другое, і жаласны сьвіст дудкі ў старане ад дарогі, ў густых зарамях, нудным завываньнем навеваў на душу некі смутак.

---

*) додзік—удодзік—птушка такая.

# Палесьсе.

(Ў дарозе).

Ўсё балоты ды балоты!
Топчэш шорсткую траву;
Едзеш-едзеш, а дрымота
Так і клоніць галаву.
Поцягнуўся лес сьцяною—
Ельнік, дуб і хваіна;
Шум стаіць над галавою...
Што за край, за старана!
Ціха ў лесі, як ў магілі,
І канца яму нема.
Зноў дзерввякі зачасьцілі...
Як у ночы, ў лесі цьма.
Аж на сэрцы сцішна стала,
Аж забілася мацней...
Хоць бы поле заблішчала,
Хоць бы вёска як барджджэй!

---

# Мурашкі і іх будова.

Скажыце, дзеці: хто з вас не бачыў круглых кучак, падобных да горкі зямлі, насыпанай з жоўценькага пясочку? Хто з вас не разгрэбаў гэтых кучаў, саўсім ня думаючы пра тое, якую трывогу падымаеце вы тым тысячам жывёлак, каторые зрабілі сабе прытулак, нанасілі гэтые кучы? Колькі топчэце іх без усякай патрэбы? Хто з вас, гуляючы, не ўзбегаў на гэтые круглые горкі, каб толькі пацешыць сябе? Гэтые горкі насыпаў не хто другі, як малéнькіе, вечна працуючые мурашкі. Разварочываючы муравеньнік (мурашнік), вы і не падумалі нават, якую бяду прычыняеце

вы мурашкам, ніколі не прыходзіла вам у галаву бліжэй разгледзіць мурашнік, пабачыць, як хітра і замыславата ён зроблены. І каб вы ўсё гэта разгледзілі, як мае быць, то вы падзівіліся бы здольнасьці мурашэк строіць хітрые хаты.

Мурашнікі сустрэкаюцца найбольш па краёх леса і строяцца ў тым мейсцы, гдзе сьвеціць сонцэ. Мейсца для будовы мурашкі выбіраюць сухіе і строяць свае кучы каля хвой, елін, бярэзін; часта каля пня. Мурашнік робіцца так, што дае прыпынак і схаванку мурашкам і ат холада, і ат спякоты, і ад дажджу. Раскапайце на цікавасьць муравеньнік пасля самаго вялікаго дажджу, і вы ўбачыце, што ён прамок на поўнальца, не болей, а ў сярэдзіне ён саўсім сухі.

Як жэ робяць мурашкі такіе выгодные хаты? Сваю будову мурашкі пачынаюць з нізу. Капаюць у зямлі сабе норы, пясок і каменчыкі выносяць наверх: гэты матэр'ял для іх згодзіцца пры далейшай рабоце. Мурашкаў у мурашніку многа, але ні водная не астаецца без працы. Адны мурашкі капаюць зямлю, робяць ніжні этаж, а другіе йдуць у лес па дрэва для верхняго этажа *). А матэр'ял іх усюды пад рукамі: земля пакрыта леташнімі лісьцямі, сухімі хваёвымі калючкамі, саломкамі высушэнай травы. Ўсё гэта збіраецца борзда, носіцца і кладзецца перш без асобаго парадку, але так, што стрэха, каторую накрываецца ніжні этаж, стаіць ўнізу хода пад зямлёю. Другіе мурашкі без прэстанку выносяць зямлю, пяшчынкі, маленькіе каменчыкі, ўсім гэтым апкладаецца і мацуецца аснова першае стрэхі. Аснова гэта дзень ада дня большае, і матэр'ялы не наваліваюцца, як папала. На першай стрэсе мурашкі ставяць другую так, каб меж стрэхамі можна было вольна

---

*) Гдзе мейсца мала там будуюць дамы высокіе, і людзі жывуць адны над аднымі. На зямлі стаіць адна хата, на ей другая, на другой трэцьцяя, чацьвёртая — а там і стрэха. Кожны такі рад хат называется—этаж.

хадзіць мурашкам. Тут яны робяць гібель усякіх перэгародак, клетачэк, пастаўленых хоць і не саўсім складна, за тое моцна і выгодна. Гэта надта хітрая і галаваломная работа. Каб зрабіць клетачкі, хаткі, сенцы, ўселякіе перэгародкі, яны кладуць наўперад сухіе палачкі, саломкі, камочкі так, каб потым іх можна было лёгка дастаць, як на гэта будзе патрэба. Палачкі і саломкі прыкрываюцца злёгка кусочкамі лісьця і ўсякаю драбязою, і ўжо на гэты слой кладзецца другі, шмат шчыльней і мацней. Тут ужо кожная сухая травінка захватывае і перапletae дзесяткаў паўтара саломак і палачэк. Апрыч таго, тут жэ потрэбуецца і трошкі зямлі, каторая выносіцца знізу: работа ў мурашэк ідзе разам і ўнізу, і на версе. Як гатоў другі слой, другая стрэха, ў каторай робіцца шмат дзірак, яны дастаюць тые матэр'ялы, каторые трымалі гэту стрэху, і выносяць наверх, а пакідаюць адны толькі патпоркі. І такім парадкам робіцца, выходзіць новы этаж, ў каторым ёсць і маленькіе хаткі, і сенцы, і ўсякіе куткі і закавулкі, каторые, праўда, не саўсім дэлікатна зроблены, але выгодные для мурашэк, каторые за хараствам ня вельмі гоняцца. Ў гэтые хаткі мурашкі кладуць свае мяшэчкі. А каб стрэхі, каторых мурашкі наробяць з дваццать, не раскідаліся, мурашкі склеіваюць патпоркі зямлёю, каторую мочаць на дажджы і сушаць на сонцы.

Зірнуўшы на мурашнік, можна падумаць, што тысячы мурашэк поўзаюць, бегаюць, круцяцца, ґіжаць (кішаць) на версі без усякаго парадку: тая цягне сухую хваёвую калюшку, другая—саломку сухога лістка; там дзьве або тры валакуць невялічкі сучок. Церпяліва следзючы за работаю мурашэк, можна замеціць, што ўходные дзьверцы мурашніка меняюцца с часу на час. Сярод дня мурашкі свабодна сустрэкаюцца ў гэтых дзьверцах і разыходзяцца нават са сваімі ношамі. Пад вечэр гэтые дзьверцы памаленьку звужаюцца і ў канцы зачыняюцца зусім, і пасля гэтаго ўсе

мурашкі хаваюцца ў сярэдзіну мурашніка. Пільна пазіраючы, лёгка убачыць, як зачыняюць мурашкі свае дзьверы. Наўперад яны ставяць слупкі на абапол уходу і не проста прыстаўляюць іх да сьцен, але ўтыкаюць у пустые мейсцы меж саломак і калюшак; потым замуроўліваюць дзюркі меж слупкамі і сьцяною мурашніка матэр'ялам болей лёгкім. У канцы ўсё гэта закрываецца кавалачкамі сухога лісьцьця.

Назаўтра рана, чуць толькі ўзыдзе сонцэ, пойдзем зноў к муравеннiку і пабачым, што там робіцца. Па версі ужо поўзае некалькі мурашак. С пад маленькіх шалашыкоў над дзьверцамі выпоўзае яшчэ некалькі, і пачынаецца работа. Самая першая работа мурашэк—атчыніць дзьверцы. Слупкі, саломкі, кавалачкі лісьцеў дастаюцца і складаюцца над дзьверцамі, каб, як на тое здарыцца патрэба, можна было зноў зачыніць борзьдзінька шырока аткрыты ход. І ўсякі летні дзень ідзе такая работа, апрыч ласьне дажджлівых дзён: ў нягоду дзьверы ў мурашніку шчыльна зачыняюцца. Калі зранку неба хмурна, то мурашкі робяць у дзьверцах маленькіе дзюрачкі, і як толькі пачне падаць дождж, яны жывенька зачыняюць іх наглуха.

---

## Як выдумляюцца страхі.

Вёска Лосяўка стаяла меж лесу і балот. Лес цягнуўся укруг вёскі цесным колам. Сама вёска дзялілася на дзьве часьці. Меньшая часьць вёскі, Сяльцо, стаяла ад самой вёскі чуць не на вярсту. Дарога, каторая шла із вёскі ў Сяльцо, прахадзіла памеж могілак і карчмы. Старая, аграмадная карчма, каторых так часта можна убачыць яшчэ і цяпер на Палесьсі, стаяла на сярэдзіне дарогі із вёскі ў Сяльцо. Напроці карчмы крокоў за сто, стаялі могілкі, цёмные, старые, с хваёвымі крыжамі, каторые, як частакол, густа

тырчалі адзін каля аднаго. Могілкі з іх старою дрэўлянаю капліцаю, з двумя ці трымя зялёнымі клёнамі і неколькімі хвоямі, таўстымі, развесістымі; карчма з гнілою абросшаю мохам стрэхаю рабілі ўсё мейсца страшным і дзікім.

Із Сяльца ў вёску раз у ночы шла баба. Як толькі надышла яна пад карчму, то пачула, што на могілках нешто плакало, як дзеця. Гэта пугач ці сава сьвістаў у гнілой капліцы. Ўзяла баба падол у зубы ды такога задала лататы, што яе і с сабакамі не злавіў бы. Прыбегшы да вёскі, яна расказала пра невядомы плач. З гэтаго часу простые цёмные людзі і ў праўду сталі што-нібудзь чуць або бачыць, як здарывалася камуісьці аднаму ў ночы меж карчмы і могілак, хоць там і нічога не было.

Страхі найчасьцей здарываюцца ў ночы. Ў ночы чэлавек кепска бачыць і часта самую пустую рэч прымае за страх. Апроч таго, нас яшчэ маленькіх страшаць цемнатою, ўсякімі дзедамі с торбамі, каторые, быццэм, бяруць нягодных плаксівых дзяцей. Памаленьку, незаметна для нас самых, у нашу душу засеваецца зерне страху, ат катораго чэлавеку потым трудна аслабаніцца. Непанятнае і страшнае для нас усё тое, чаго прычыны мы не знаем Болей навукі — меней страху.

---

## Заклад.

### I.

Сабраліся вечэрам хлапцы. Гаварылі аб тым і сім. У канцы зашла мова пра страхі. Многа страшных здарэньнеў гаварылі хлопцы.

— „Усё гэта выдумкі!“ — кажэ адзін хлапец — Апанасам зваўся.

— „А ты хіба не баішся?“ — абернуліся к яму хлопцы

— „А вось і не баюся!“—сьмела прамовіў Апанас.

— „А калі ты і ўзапраўду сьмелы, то схадзі на могілкі“.

— „А то мо' і не пайду?“

Хлапцы паспорылі і залажыліся на кварту гарэлкі.

— „Ну, дык бяры гвоздзь і сякеру і прыбі яго да крыжа“.

Узяўшы цьвек і сякеру, Апанас пашоў. Могілкі былі ня вельмі далёка ат села. Адышоўшыся троху, Апанас пачуў некі няведомы страх. Ён крэпіцца і ідзе далей. Чорная ноч лежала кругом. Пустые адзінокіе могілкі прытуліліся ў полі на пешчаным узгорку і нудна пазіралі скрозь густую цьму сваімі пахіліўшыміся старымі крыжамі, каторые смутна вырэзываліся ў пацёмках. Пераскочыўшы вал, каторым абведзены былі могілкі, Апанас стаў, аглянуўся укруг, прыслухаўся. Ўсё было ціха. Падышоў Апанас пад адзін крыж і стаў убіваць цьвек. Убівае, а самому здаецца, што нехта працягівае да яго рукі. Кроў прышла яму ў галаву. „Цяк-цяк-цяк!“ стукала сякера па галоўцы цьвека. Адагнуўся Апанас, каб ісьці—дзержыць яго нехта за палу. „Ай!“ дзікім голасам закрычаў ат страху Апанас. Пачулі хлапцы і кулем кінуліся на могілкі ратаваць сябра.

— „Чаго ты?“

— „Трымае нехта, браткі, за палу“.

Хлапцы падышлі бліжэй. І штож яны убачылі?

Апанас с полаху прыбіў да крыжа сваю палу.

Хлапцы атчапілі яго і прывялі да хаты.

Як расказалі яны пра гэту штуку, дык дзеўчаты чуць верацёнамі не запаролі беднаго Апанаса. А сьмеху было, сьмеху! Нават сам Апанас нарэшці не вытрымаў і стаў сьмеяцца сам над сабою.

— „Ось, каб ты згарэла! От табе і страх“.

## II.

Проста такі не шанцавала нашаму Апанасу ў гэты вечэр!

Як толькі ўсё угаманілася ў хаці, Апанас, каб апраўдацца, кажэ, што каб ён не закладаўся, то нічога гэтаго не было б. Закладацца ў такіх прыпадках ніколі ня трэба, бо пэўна спалохаешся.

— „А то ж, ня можна!“—кажэ Алена, самая сьмелая і шустрая дзяўчына ў сяле. — „Закладацца то можна, але не такім хватом, як ты“.

Меж Апанасам і Аленаю завязалася спорка.

Хлапцы і дзеўчаты ўзялі руку Алены.

— „Ну, Алена, не паддайся Апанасу!“

— „І не паддамся! Хоць вот цяперачкі йду ў заклад, на што хочэце“—крычыць Алена.

— „Ся! — кажэ Апанас, — калі ты такая сьмелая, то пайдзі прынясі вады з тае крыніцы, што за цэрквай.

— „А мо' не прынясу?“

Другі заклад.

Кінула Алена прасьніцу, за збан і пашла.

Апанас ціхачом за ёю, узлажыўшы белы кажух. Прытуліўся ён за вуглом, чэкае Алену.

Алена, як і не было таго, зачэрпнула вады і йдзе...

Шусь Апанас ёй на сустрэчу і стаў на дарозі.

Алена як дзержала збанок з вадою, дык і выліла яго ўвесь на белы кажух Апанасаў.

— „Гдзе ж твая вада?“—пытаюць Алену.

— „На Апанаса выліла ўсю“.

Брыдка было Апанасу і ў хату паказацца.

# Вершы і байкі.

---

## Наш родны край.

Край наш бедны, край наш родны!
Гразь, балота ды пясок...
Чуць гдзе трохі луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.
А туманы, як пялёнка,
Засьцілаюць лес і гай...
Ой, ты бедная старонка!
Ой, забыты Богам край.
Нашэ поле кепска родзіць;
Бедна тут жыве народ.
У гразі ён, бедны, ходзіць,
А працуе—льецца пот.
Пазіраюць нудна вёскі.
Глянеш—сэрцэ забаліць.
На дварэ—паленьня, цёскі,
Куча сьметніку ляжыць.
Крыж хваёвы пры дарозе,
Кучка топалёў сухіх...
Сьцішна, нудна, як ў вастрозе,
Як на мо́гілках якіх.
А як песьня панясецца...
Колькі ў песьні той нуды!
Уцекаў бы, бег, здаецца,
Сам ня ведаеш куды.

Край наш родны! Бедна поле!
Ты глядзіш, як сірата.
Нудна ты, як наша доля,
Як ты, наша цемната!

---

## Мужычае жыцьцё.

Божэ, Божэ! Твая воля
(Хоць і можэ гэта грэх!)
Як паглядзіш—што за доля!
Проста плач бярэ і сьмех.
Нудна як жыве на сьвеце,
Як мужык зжывае век!
У гразі, ў пылу, у сьмеці—
От жыве як чэлавек.
Ў хаце чорна, не прыбрана,
Парасяты пад палком;
Павуцінаю заткана
Столь і кут над абразом.
Дзеці ўстануць пасьля ночы,
Крык! хоць вушы затыкай;
Дым с камінку лезе ў вочы,
Дзед сярдуе—ая-яй!
А як часам гдзе зьбярэцца
Ў хаце некольні жанок:—
Сварка тая не зьвядзецца,
З дзень грызуцца за гаршок.
Ў спор ўмешаюцца мушчыны —
Ну, і пойдзе ла-та-та!
Паўплетаюцца ў чупрыны,
Рэдка стане барада.

I ўвесь век цэрэтаўчэшся,
I нема таго добра.
Покі жыць ты прыбярэшся—
Уміраць ужо пара.

---

## Наш палетак.

Наш палетак памеж межаў,
З за каторых цьвіце збожэ;
А наш скравак што-сь залежаў,
Наш загон зыйсьці ня можэ.
Ці то глеба да нічога?
Ці то рукі ў нас слабые,
Што ня маем зерня свога,
Што мы ходзім, як сляпые?
Глеба чорна, ў руках сіла,
Толькі нашых гаратаяў
Некась мара ўсё звадзіла
Гдзесь за межы—да выраяў...
Наш сявец не раз там кідаў
Залатое зерне з жмені,
Ён не раз там колас выдаў,
А у нас расьлі камені.
Наш палетак не гараны,
Палынамі цьвіце ніва.
Ну—же, браткі, кумы, сваты,
Да работы станьма жыва!
Хто гараці добра зможэ,
Хто разоры скора ладзіць,
Хто шчасьліве сее збожэ,
Хто гароды добра садзіць,—

Жыва, жыва за работу,
Без аглядкі, хто што можэ.
Усе роўны, без расчоту—
Усіх праца будзе згожа.

*М. Крапіўка.*

---

## Людзкіе сьлёзы.

Сьлёзы людзкіе, сьлёзы людзкіе!
Вамі абмыта сырая земля,
Вы паласкалі мужычые нівы,
Вы палівалі сухіе паля!
Падалі градам на вузкіе сьцежкі,
С пылам мешаліcь, мешаліcь с пяском,
Тайна ліліся, аткрыта ліліся,
Падалі к долу гарачым дажджом.
Сонцэ сушыла, вятры абвевалі...
Бачылі зоры вас, бачыла цьма...
Дзеці нягоды, о сьлёзы людзкіе!
Шчоту нема вам і меры нема.

---

## Песьня пры калысцы.

А-а! а-а! мой сынок!
А-а! а-а! мілы!
Не крычы, ня плач: дарэмна
Ты патраціш сілы.
А бяз сілы, мой сынок,
Жыць на сьвеце трудна...
Ой, ты, вецер. не шумі,
Не сьпевай так нудна!
Спаць Міхаську не даеш...
Сьпі, мой сын маленькі!
Я цябе пакалышу,
Ай, люлі—люленькі!

Што цябе чэкае, сын?
Што твая за доля?
Мо', як бацька, будзеш ліць
Пот ў чужое поле?
Будзеш ў летку ты хадзіць
На плыты, на згоны.
С Коўна матцэ прынясеш
Хоць ґарсэт чырвоны.
А то, можэ, купіць пан
Рукі твае, сілы.
Падневольным будзеш ты,
Сын мой, да магілы!
А то, пойдзеш ў школу ты,
Будзеш чэлавекам:
Без вучэньня кепска жыць
Гэтым трудным векам!
Кінеш матку, па чужых
Ты па людзях пойдзеш,
Мо' на шчасьце нападзеш,
Долю сваю знойдзеш.
Ўспомні матку ты сваю,
Як цябе люляла,
Як табе у ноч не раз
Песьню я сьпевала.
И гасьцінца мне прышлеш,
От, я буду рада!
Пазайздруець мне тагды
Ўся ў сяле грамада.
А-а! а-а! мой сынок!
А-а! а-а, мілы!
Ой, ня плач ты, не крычы,
Набірайся сілы!

## Шэрая гадзіна.

Толькі сонцэ залатое
Стушыць луч апошні свой,
Толькі ціхі час пакоя
Чуць павее над зямлёй;
Толькі ў полі пашэрэе—
Ноч махне сваім крылом,
Толькі вецер чуць замлее
За ракітавым кустом,—
Дык не'к нудна, сьцішна стане;
Заварушыць душу жаль,
Некісь смутак ў сэрцэ гляне,
Клічуць думкі ў неку-сь даль.

## Не нудзіцеся!

Што вы, хлопцы, пахмурнелі,
Як каго вы пахавалі?
Ці нешчасьця так здалелі,
Што вас думкі спанавалі?
Плюньце, хлопцы! Засьпеваймa,
Каб аж вокны задрыжалі,
Ва ўсе грудзі загукайма,
Каб ўсе думкі паўцекалі.
Ці ж мы будзем цягам гнуцца,
Апускаць ў нядолі рукі?
Нехай сьлёзы больш ня льюцца.
Нехай нас не знаюць мукі!
За работу жыва, жыва!
Каб нас доля не зьбегала,
Каб ня сохла наша ніва,
Каб нуда нас не чэпала!

Нелп.

## Зязюлька.

Побак нашай вёскі
У зялёным гуку,
Як весна настане,
Чуем: ку-ку, ку-ку.
Што зязюля кажэ,
Адгадаць ня трудна;
Кажэ: прыдзе доля,
Хоць ідзе марудна.
Прынясе с сабою
Нам зямлі і хлеба,
Мусіць нашы модлы
Даляцелі ў неба.
Дай жэж, Божэ мілы,
Каб прышла та доля,
Прынясла ў дастатку
Хлеба нам і поля.
Будзе гдзе скацінку
Выпусьціць на пашу,
Будзе забяліць чым
Крупнічак і кашу.
У пары зімовай
Будзе дроў ў дастатку,
Стане і бярвеньня
Паднавіць нам хатку.
Будзем жэ мы, дзеткі,
Божэньку маліцца,
Каб ён даравау бы
Лепшае нам жыцьце.

*Тітоў.*

# Конь і сабака.

Свабодны конь гуляў на волі,
І хвост, і грыву распусьціў,
Іржаньнем ён сваім будзіў
І лес стары, і чыста поле.
У бок прахожы стараніўся,
Яму дарогу уступаў.
Ат страху Рудзька прытуліўся
І толькі ціхінька брэхаў.
Каня злавілі, прывязалі,
На вобруць беднаго ўзялі,
Аборкай ногі абвілі,
І борзды бег яго стрымалі.
З-за вугла вылазіць Рудзька.
— Гаў-гаў-гаў! давай брэхаць.
За хвост каня кусае цюцька—
Ні атцягнуць, ні адагнаць!
Малые дзеці тут гулялі,
Дзівілісь многа і казалі
(Па дурнаце не разабралі—
Дзіця малое, як ягня):
„А, Рудьзка дужшы за каня!“

# Казкі.

## Воўк-дурэнь.

Стары, галодны воўк выйшэў на поле. На полі хадзілі авечкі. Пастух спаў. Скраўся воўк, выбраў самаго большаго барана-рагаля і кажэ яму:

— „Баран, баран! Я цябе зьем“.

— „Што ж! кажэ баран:—такая мая доля. Але каб ня мучыцца мне доўга ды і табе каб не ламаць зубы аб маі старые косьці, дык стань у лагчынцэ і разявіся; а я узьбягу на горачку, разганюся і ўскочу табе ў горла цэлком“.

Стаў воўк у лагчынце, разявіў рот.

А баран узьбег на горку, разагнаўся і—трах воўка па галаве! Аж іскры пасыпаліся з вачэй у воўка, сьвету ён не ўзбачыў. Перакуліўся разоў два і—драла ў лес.

Бяжыць воўк, бачыць—на балоце конь!

— „Конь, конь! Я цябе зьем“.

— „Што ж! кажэ конь:—такая мая, мусіць, доля. Толькі ж ты здымі з ног маіх паткові, каб не ламаць табе зубы аб іх“.

Нагнуўся воўк, каб скінуць паткові, а конь як дасць яму капытом у патыліцу! Перэкаціўся воўк, ды ходу!

Падбегае воўк к рэчцы. На берэзі хадзілі гусі.

— „Гусі, гусі! Я вас зьем“.

— „Што ж! кажуць гусі: еш, толькі паграй ты нам, а мы паскачэм прэд сьмерцю. У нас такі ўжо закон“.

Прымайстраваўся воўк на купіні, закінуў галаву і давай выць. А гусі крыльлямі—лапу-лапу-лапу! Узьняліся і паляцелі. А воўк злез с купіны, паглядзеў на гусей і пабег далей. Патходзіць ён пад вёску. Каля вёскі быў хвойнік, гдзе мужыкі хавалі на зіму бульбу. У хвойніку рыла сьвіньня.

— „Сьвіньня, сьвіньня! Я цябе зьем“, — кажэ воўк.

— „Не, ня еш мяне, пане воўк: у мяне ёсць малéнькіе дзеткі“.

— „Нема чаго!.. я галодны, як сабака. Дзеці твае і без цябе абыйдуцца“.

— „Дык пазволь хоць схадзіць накарміць іх“.

— „А ты ж прыдзеш?“

— „Прыду“.

— „Ну, глядзі ж!“

Пашла сьвіньня, а воўк прытуліўся за хвойку, чэкае. Церэз гадзіну прыходзіць сьвіньня.

— „Ось што, пане воўк: я надта грэшна. Паспóведай ты мяне прэд сьмерцю. Хоць лягчэй будзе ісьці на той сьвет“.

— „Ну, добрэ“.

Сьвіньня пасадзіла воўка каля ямы, на саломцы.

— „Ў агарод лазіла?“ пытае воўк.

— „Лазіла“, прызнаецца сьвіньня, цяжка уздыхнуўшы.

— „Чужое дабро крала?“

— „Ох, крала“.

— „Меньшых сьвіньней кусала?“

— „Чаму ж? кусала“.

— „Ну, і грэшная ж ты, сьвіньня! За такі грэх...“.

Н[illegible] закончыў воўк казаньня казаць. Як пырне яго сьвіньня [illegible]ычэм! Аж у гору патскочыў воўк і— бух ў яму!

Сядзіць ён у ямі і прычытвае:
„Ці я той хапун, што бараноў цэлко́м глытаў?! Аў! у!
„Ці я той каваль, што каня каваў?! Аўу!
„Ці я той музыка, што гусям граў?! Аўу!
„Ці я той, што сьвіньню спаведаў?! Аў, аў! у-у-у-у!“
„Прыбеглі людзі і забілі воўка каламі.

---

# Леў і воўк.

Хадзіў па лузе конь. З лесу вышэў леў.

— „Я цар над усімі зьвярмі. Нема на сьвеце такога зьвера, каб не баяўся мяне“, кажэ леў.

— „Я ня веру, што ты самы дужшы зьвер на сьвеце, атказвае конь: праўда, ты маеш сілу, але ёсць зьвяры яшчэ дужшые“.

— „Дык ты ня верыш?! Я пакажу табе сілу! крыкнуў леў, наліўшы крывёю вочы.—Ці ня хочэш ты папрабаваць маю сілу?“

— „Не крычы, леў, і ня страш мяне. А сілы чаму не спрабаваць? Можэш ты так стукнуць нагою па камені, каб агонь з яго пасыпаўся?“

— „А ты, ласьне, выбіваеш іскры с каменя нагамі?“

— „А вось, глядзі!“

Падвёў конь льва пад камень. У каня на нагах былі сталёвые патковы. Стукнуў конь капытом, цэлая куча іскраў пасыпалась с каменя.

Страх апанаваў льва; бягом у лес!

Убачыўшы воўка, кажэ яму леў пра каня, пра яго сілу.

— „І ты яго збаяўся? Эх, а яшчэ царом нашым завешся! Пакажы мне толькі яго: у дзьве мінюты капут яму“.

Леў узяў воўка ў пярэдніе лапы, сам стаў на задніе.

— „Пазірай!“

Льву здавалася, што ён памаленьку дзержаў воўка, а у таго трэснулі косьці і дух выскачыў вон.

— „Ну, што, бачыш?“

— „Нічога ня бачу,“ кажэ воўк.

— „Што ж ты маўчыш?“

Апусьціў леў воўка на землю, бачыць—воўк не дыхае.

— „Эх, ты! Толькі хвалішся. Глянуў і то самлеў.“

І кінуў ён нежывога воўка на зямлю.

---

# Два зайцы.

Сядзяць два зайцы ў лесе пад бярэзінай і жаляцца на сваё жыццё.

— „Якая наша доля? кожны час бойся; бойся чэлавека, бойся воўка, сабакі, ліса. Хадзі ды прыслухуйся. І хто ня крыўдзіць нас, бедных зайцоў? Ня толькі чэлавек, зьвер, а нават птушкі і тые цікуюць на нашэ зайцава мяса. А чым можэм бараніцца ад нашых ворогаў? Нічым. Ўся надзея на ногі. Выратуюць яны з бяды—тваё шчасьце, а не—прапала твая шкура.“

І зайцы заліліся горкімі сьлязмі.

— „Ці ж варта жыць пасьля гэтаго? Хоць бы адна жывёла на сьвеці баялася нас, зайцоў... Хадзём, брат, ды ўтопімся ў возеры—раз прападаць.“

Наплакаліся, надумаліся бедные зайчыкі і ідуць таніцца. Возера было блізка. Падышлі зайцы пад возера, абняліся, пацалаваліся, разьвіталіся. Толькі яны бліжэй падышлі к берэгу,—скок жаба с купіны: спалохалася зайцоў.

— „Эх, брат,“—кажэ адзін зайчык:—„ёсць жэ на сьвеце стварэньне, што і нас баіцца. Ім, відаць, яшчэ горш жывецца, як нам. Можна, значыцца, жыць на сьвеце.“

І пабеглі зайчыкі назад у лес.

## Мужык і цыган.

Ішоў мужык с цыганом. Пустая торба ў аднаго і у другога. Есьці абодвым хочэцца, хоць зубамі ляскай. На іх шчасьце ехаў пан на маёўку. Вёз ён с сабою ўсякай яды і закускі. З брычкі выкінуўся ўжарэны гусак. А цыган з мужыком як ішлі, дык і знайшлі шчасьлівую знаходку. Аж сьліна пацекла ў іх із рота, як глянулі яны на гусака. Кінуўся цыган на хітрыкі.

— „Вось што, браце,—кажэ ён мужыку: — як будзем мы есьці ў двух, то ні ты, ні я не наемося. А мы зробім так: ляжэм спаць, і хто сасніць лепшы сон, той нехай бярэ ўсяго гусака“.

— „Добра!“ кажэ мужык, пачухаўшы патыліцу.

Зьвярнулі яны з дарогі, выбралі цянёк і палеглі. Цыган зараз і захроп, бытцым сьпіць. Але гдзе ўжо той сон пойдзе на пусты жывот. Ня сьпіць цыган, хоць і храпе, ўсё думае, які бы выдумаць сон. А мужык тым часам скраўся паціхіньку, за гусака, адышоўся за куст, каб ня бачыў цыган, і стаў уплетаць гусака за абедзьве шчокі. Толькі адны голенькіе костачкі асталіся ат панскаго гусака. Напіўся мужык с крыніцы вады, лёг, адразу заснуў. Сьпіць, як пшаніцу прадаўшы. Ўстае цыган, будзіць мужыка.

— „Ўставай, браце! сьпі, ня сьпі, гэтаго не сасьніш, што сьніў я“.

— „Што ж ты там сьніў?“ пытае мужык, падняўшы галаву.

— „Ого! што я сьніў! Сьніў я, браце,—здаецца, сталць драбіны, высокіе, высокіе, аж да самаго неба. Я гэта на драбіны, здаецца, лезьці ды лезьці;—ўзлез аж на самае неба. Бачу, на небе Бог, каля Бога ангелы. Бог пье гарбату; ляжыць сала. Патклікае, здаецца, мяне Бог, частуе гарбатаю, салам“...

— „Дык я бачыў,—перапыняе яго мужык,—як ты палез на неба, бачыў, як піў гарбату. Чаго ён пойдзе сюды? думаю сабе:—няўжож ён будзе есьці гэтаго нешчаснаго гусака пасьля гарбаты і сала? І чаго ён пойдзе сюды? Ўзяў я, браце, ды прыняў драбіны, думаў, што ты ня вернешся аттуль, і гусака зьеў. І як ты злез аттуль без драбін, чорт цябе ведае“.

І асталося беднаму цыгану смактаць голые косьці.

## Дзьве кумы.

Вязала кабета на полі ячмень. Падымалася хмара. Бачыць баба, што да дожджа не ўправіцца ёй з ячменем.

„Дай“, думае, „клікну на помач куму“. А кума ўжо ўхадзілася с сваею работаю і была дома.

— „Памажы мне, галубка, зьвязаць ячмень“, просіць яна куму.

— „Калі ж, кумка, жыбулькі надта колюцца“, атказвае кума.

А зімою прыходзіць яна да кумы.

— „Дай мне, кумка, мукі на аладкі“.

— „Прышла кумка па муку, а жыбулька—за руку!“

## Чаму ў сенакос і ў жніво йдзе дождж.

Прасілі людзі Бога, каб даў ім Бог дождждыку.

— „Пашлі ты ім дождж“! кажэ Бог да прарока Ільлі.

— „А куды пасланць дождж?“ пытае Ільля (а ён, трэба сказаць, упраўляецца даждждом, сьнегам і пагодаю).

— „Туды, гдзе просяць“.

А Ільля не дачуў, думаў, што Бог сказаў пасланць дождж туды, гдзе косяць. И паслаў на сена дождж.

— „Пашлі туды, гдзе ждуць!“ кажэ Бог.

А Ільля ізноў не дачуў і паслаў туды, гдзе жнуць.

І с таго часу ўсьцяж у сенакос і жнітво ідзе дождж.

І кажуць: Сьвяты Ільля нарабіў гнільля.

---

## Мужык і зэгарэк.

Шоў дарогаю мужык. На дарозе ляжаў зэгарэк. Мужык ніколі не бачыў зэгарка і ня ведаў, што ён знайшоў. Ён стаў і пазірае.

— „Ці не гадзюка гэта якая?“ падумаў мужык, бо ў зэгарка быў блішчасты ланцужок, а цёмнаму мужыку здалося, што гэта хвост вужакі. Ён пырнуў зэгарак палкаю! Не! не варушыцца. Нагнуўся, каб разгледзіць, чуе—чыкае. Мужыку здалося, што ён пытаець:

— „Чый-ты! чый-ты? чый-ты?“

— „Чый я? А во чый я!“

Схапіў мужык зэгарак за ланцужок і разбіў яго аб камень.

## Мужык і пан.

Паслаў пан свайго мужыка (за паншчынай было дзела) с пісьмом да другога пана.

Засунуў мужык пісьмо за пазуху і пашоў. Як раз на дарозе сустрэў ён таго пана, да каторага ён шоў с пісьмом. Вымае мужык з-за пазухі скумячанае пісьмо і падае яго пану, ня скінуўшы шапкі. Гэта пану ні спадабалася.

— „Скажы ты мне, чэлавечэ, ці ў твайго пана нема лепшых людзей, што ён паслаў да мяне цябе, дурня?“

Хацеў спагнаць сваю злосць на мужыку пан.

— „Чаму нема?! кажэ мужык:— „ёсць, але лепшых людзей і разумнейшых ён паслаў да лепшых і разумнейшых паноў“.

## Цяжкая доля.

Страшна загневаўся рак і ня хочэ атпусьціцца. Залез у сваю норку, выставіўшы доўгіе вусы і шырокіе клешчы. Сядзіць, не зварухнецца. Ці скрыўдзіў яго хто так моцна, ці жыць на сьвеце абрыдла—ня ведаю. Толькі ні с кім і гаварыць ня хочэ рак.

Патплыла да яго плотачка ды кажэ:

— „Рачэ, рачэ! чаго ты так угневаўся? Ці кепска так жыць табе на сьвеце, што ня хочэш ты і пазіраць на Божы сьвет, вылезьці на сьвежую воду? Усім не салодка жывецца. Вось хоць бы і мая доля. Што за доля? Пражыў дзянёк— і дзякуй Богу. Жыві і бойся: то шчупак гоніць цябе, то хітры чэлавек не дае табе тхнуць. Куды ні сунься,—усюды

яго хітрые прыманкі. Зачэпіш—і будзь здарова рэчэчка!“ І пашла расказываць рыбка аб сваёй цяжкай долі.

А рак усё сядзіць, хмурны, як восень, і, здавалася, ня слухаў нават таго, што казала плотка.

— „Чаму ж ты не скажэш, рачэ, хоць слова? Чаму ня хочэш вылезьці на сьвежую, чыстую водэньку?“

— „Скарэй памру, а ня вылезу. Калі хто знайдзецца такі, каму горш жывецца на сьвеце, як мне, тагды я вылезу“.

І пачаў горка плакаць рак, скардзіцца на сваю долю. Проста заплакаць можна было, слухаючы ракаву скаргу.

Занудзілася ўся рэчка, аж вада закаламуцілася, так жаласна гаварыў рак. Усе грамадзяне вады прышлі ўцешаць рака, і кожны хацеў расказаць раку пра сваю цяжкую долю. А рак толькі слухаў ды гаварыў:

— „Не! мая горшая доля!“

І сядзеў у норцы.

Ніхто ня можэ уцешыць рака.

Дачулася аб гэтым жытэйка*). Шкода яму стала рака і прышло яно да рэчкі.

— „Рачэ, рачэ“! начало жытэйка: — „паслухай, якая мая доля. Кінуць мяне ў восень у сырую зямлю. Пуста укруг у полі, адно толькі я гібею там. Льюць на мяне дажджы і дзень, і ночку, вецер наносіць сухое лісьцьця. Топчуць мяне авечкі, быдла і коні. А прыдзе халодная зіма, ўкуе зямлю марозамі, засыпле мяне сьнегамі. Мёрзну я ўсю зіму. Пазябнуць да званьня мае зялёные лісточкі. Настане весна, зноў па мне топчуцца з нагамі, пячэ мяне сонцэ, дратуюць зайцы і птушкі. А прыдзе пара, вырастуць і высьпеюць мае зерняткі, прыходзяць ка мне с серпамі людзі і рэжуць без міласэрдзя, вяжуць у снапы, кладуць на воз, кідаюць у гумны. Бьюць мяне, бьюць цэпамі, сушаць на печы, труць каменьнямі ў муку. Насып-

*) Жытэйка = жытцо.

люць мукі ў дзяжу, месяць мяне, месяць і садзяць у гарачую печ. Адзін толькі і ёсць у маім жыцьцю прасьвет — гэта як вымуць мяне с печы і абальюць халоднаю вадою. Тагды толькі лягчэй мне стане. Дык вось якая мая доля, рачэ“.

Заварушыў рак вусамі і вылез з нары.

---

## Песьня птушкі.

У цеснай, крэпкай турме аднаго вялікаго гораду сядзеў бедны засаджэны. Ліхгодные людзі закавалі яго ў ланцугі і кінулі ў турму.

Ў турме было сыра, цёмна і холадна. Замеж пасьцелі яму кінулі мокрую салому. Сядзеў ён там многа гадоў — змучэны, бледны, хворы і нудны. Рэдка сьвяціло сонцэ ў яго маленькае, вузкае ваконцэ; сьвежы воздух не праходзіў ў турму. Нудна думаў, бедны астрожнік, пра сваіх дарагіх родных, пра малéнькіх сваіх дзетак; думаў, можэ быць даўно ўжо ўсе забыліся пра яго, счытаючы памёршым. Што робіцца там, у далёкім родным краю, на зямлі?

Ён падышоў пад аконцэ. Быў дзіўны летні вечэр. Сонцэ апускалася ужэ к лесу, і ціха, і хораша сьвяціліся яго верхавіны ў залатым блеску апошніх лучоў. Па вуліцах ішлі і ехалі людзі. Турма была высокая, і людзі здаваліся маленькімі. Ён крыкнуў ім, але ніхто яго не пачуў. Ў сінім небе лёталі птушкі. Проціў вакна ціха пралетаў арол.

— „Арол, арол!“ закрычаў яму астрожнік: „сядзь ка мне на ваконцэ, раскажы, што робіцца на зямлі, засьпевай мне песьню!“

— „Не!“ — сказаў арол: „вакно тваё надта малое — мне негдзе сесьці. Я не раскажу табе, што робіцца на зямлі,

бо рэдка апускаюся на зямлю. Я ўю гняздо сваё на самых высокіх курганох ў горах і на старых дубох, далей ад нягодных людзей, каб не разьвярнулі яны майго гнезда. Я не засьпеваю табе песьні, я ніколі не сьпеваю на зямлі. Я падымаюся высока-высока, і мае песьні слухае толькі вечнае сонцэ".

І шырокамі ўзмахамі дужых крылоў арол горда падняўся да неба і схаваўся з вачэй.

— „Лебедзь, лебедзь! раскажы, што робіцца на зямлі; засьпевай мне песьню!"

— „Не,—кажэ лебедзь,—я не раскажу табе, што робіцца на зямлі. Я плаваю заўсёгды па вадзе—чыстай, сьветлай вадзе, меж зялёнымі чаротамі. Як вада раніцаю, на ўсходзе сонца, пакрыецца чырванаватым сьветом, я моцна крычу сонцу: „дзень добры!" Я не засьпеваю табе песьні,—я засьпеваю песьню, як стану ўміраць". І лебедзь паплыў у воздусе, блішчучы белымі крыламі.

— „Верабейчыкі, верабейчікі! сядзьце на ваконцэ, раскажыце, што робіцца на зямлі. Засьпевайце песеньку!"

— „Чылік-чылік! Нам некалі. Нам яшчэ трэба пазяўбсьці зернятак, што няўмысля рассыпаў мельнік!"...

І нудна апусціў галаву бедны астрожнік, і востраю больлю заныло яго сэрцэ.

Разам фуркнула шэранькая птушэчка, павярцелася прэд ваконцэм і села на жалезную крату.

— „Здароў, салавейчык! Дзякуй табе, мілая птушэчка, што даведалася мяне. Раскажы, што робіцца на зямлі, засьпевай мне песьню".

— „Я раскажу табе, што робіцца на зямлі, я засьпеваю табе песьню",—пачаў салавейчык.

І паліліся такіе трэлі, што бедны астрожнік заплакаў з радасьці, упаў па салому,—і усё плакаў, усё слухаў.

— „Учора ранкам на ўсходзе сонца,—сьпеваў салавей—было так сьветла. Я прыляцеў да твайго доміка, сеў на

зялёны арэхавы куст прэд атчыненым ваконцэм і ўсё сьпеваў. і сьпеваў. Ў калысацны лежаў твой сынок. Ён раскрыў свае сьветленькіе вочкі і пытаў: „Гдзе тата? гдзе тата?“ і слухаў мае песьні...

— „Твае сваякі плачуць, успамінаючы цябе. Яны цябе любяць, надта любяць, і вельмі хочуць убачыць цябе. Не маркоцься! Бог бачыць, што ты не вінаваты: злые людзе выпусьцяць цябе, і ты зноў выйдзеш на волю, на сьвет, на чысты воздух.

— „Дзеці твае будуць цябе шанаваць і любіць... Будзе ціхі летні вечэр, доўгіе цені пацягнуцца ад дрэў, на сонцы заблішчаць вокны. Ты будзеш, седзючы на ґанку, расказываць сваім дзецям, як ты пакутаваў.

— „Будзеш іх вучыць, каб яны, як вырастуць, не давалі злым людзям рабіць злые дзелы, каб ня крыўдзілі другіх людзей. І дзеці твае паслухаюць цябе. Як яны вырастуць, ты ўбачыш іх добрымі, чэснымі і справедлівымі, убачыш, як яны будуць стаяць за бедных і памагаць ім. Ты будзеш жыць доўга, доўга. Воласы твае пасівеюць, але сэрцэ будзе радасна біцца.

„І як ты памрэш, усе будуць плакаць па табе і маліцца, і панясуць цябе на зялёные могілкі ў сьветлы солнечны дзень. Над тваею магілаю пасадзяць рожавы куст, і я буду на ўсходзі сонца сьпеваць песьні над тваёю магілаю“..

---

# Дурэнь.

Было у бацькі тры сыны: два разумные, а трэцьці, самы меньшы, дурэнь. Пакуль жыў-быў бацька, ўсе яны жылі разам. Бацька заступаўся за свайго меншаго сына, як браты пачыналі яго крыўдзіць. Жыў ён і вялікаго гора

не знаў. Але памёр бацька, падзяліліся старшые браты, а меньшаго, дурня, выгналі с хаты. Заплакаў дурэнь, вышаўшы на двор, пастаяў на вуліцы, кінуў вокам ва ўсе бакі і пашоў, куды вочы глядзяць.

Доўга ішоў дурэнь. Нарэшці зайшоў ён у лес. На дарозе сядзела малое воўчанё і нудна скавытала.

— „Эх, брат!—кажэ дурэнь:—і цябе, мусіць, выгналі браты, як і мяне, вон з дому. Ну, што ж? годзі плакаць. Давай, брат, будзем разам гарэваць!“

І дурэнь завязаў маломy воўчку аборку на шыю і павёў за сабою. Ўсё лета хадзілі яны разам, і дзікі ваўчок прывык да дурня. Дурэнь карміў яго тым, што і сам еў. Пад восень маленькі ваўчок зрабіўся вялікім воўкам і бегаў за дурням, як сабака.

— „Ну,—кажэ раз дурэнь:—годзі брат, нам без работы цягацца—пара і за дзела!“

Накупляў дурэнь авечых ножніц, навязаў іх ваўку за шыю і прыходзяць такім парадкам да дурнявых братоў. Ніводнага брата не было дома—адны толькі іх жонкі засталіся.

— „Што гэта ў цябе за сабака?“ пытае адна братава у дурня.

— „А гэта стрыгунчык“,—аткazвае дурэнь: „ён надта добра авец стрыжэ“.

А у братавай як раз авечкі ня стрыжэны.

— „Мо' ты, галубок, пусьціў бы яго да маіх авечачэк—яны ж як раз і не пастрыжэны“.

— „Чаму не? можна“, кажэ дурэнь.

Пусьцілі воўка ў хлеў. Цэрэз гадзіну прыходзіць братава ў хлеў—ўсе авечкі перадушэны да адной, а воўк назірае злымі вачыма з вугла і зубамі ляскае.

— „Ну, што? пастрыг авечкі?“ пытае другая братава.

— „Дзіва што пастрыг! так пастрыг, што лепей і ня трэба“.

— „Дык і я ж папрашу дурня, каб і да маіх авец пусьціў ён стрыгуна“.

Перадушыў воўк і другое стада.

Узяў дурэнь воўка, пашоў ў лес і пусьціў яго на волю.

Прыехалі браты. Расказалі ім жонкі, якое шкоды нарабіў ім дурэнь. Кінуліся браты даганяць яго. Дагналі, злавілі, ўсадзілі ў мяшок і панясьлі ў возера тапіць. Як падышлі яны да возера, тут толькі ахамянуліся, што ў іх нема сякеры прасеч палонку.

— „Збегай, браце, па сякеру!“

— „Не, ты схадзі: ты малодшы“.

І завяліся, каму йсьці па сякеру. А дурэнь ляжыць ў мяшку ды слухае. Кінулі браты дурня на дарозі і пашлі па сякеру. Як толькі яны адышліся, давай крычаць дурэнь на ўсю дарогу:

— „Я ня ўмею ні чытаць, ні пісаць, а мяне хочуць за караля абабраць!“

Ехаў анучнік. Пачуў ён гэты крык, спыніў каня.

— „Чаго ты крычыш?“—пытае анучнік.

— „А так і так,—кажэ дурэнь:—чэлавек я цёмны, неграматны. Які я кароль?!“

— „Ну, дык я граматны! Пусьці мяне ў мяшок, кажэ анучнік:—з мяне будзе добры кароль“.

— „Ну, лезь!“

Разьвязаў анучнік мяшок. Дурэнь вылез, а туды ўсадзіў жыда, завязаў яго, а сам сеў на яго воз, па кані—ды паехаў прадаваць мыла, йголкі, тутун, тараны. А тым часам прышлі браты с сякерао і павалаклі беднаго „караля“ на лёд. Бачыць анучнік, што не туды ён папаў.

— „Уй, ґевулт! Сто ві гобіце?“

— „Ага! жыдам загаварыў! Не, брат, дудкі!“

Высеклі яны палонку і кінулі туды жыда.

А на заўтра прыежджае дурэнь ў сваю вёску і прадае тараны і селядцы.

— „Дзе ты набраў ўсяго гэтаго?“—-дзівяцца браты.
— „У возеры“.
— „Ці ж там ёсць коні і тавары?“
— „Колькі хочэш!“
Кінуліся браты кулём да возера.
Высеклі палонку. Перш палез старшы.
„Што, ёсць коні і тараны?“ пытае меншы.
Атказу нема.
— „Ось якім зайздросным зрабіўся і гаварыць ня хочэ.—думае меньшы брат.
І бабух у палонку!
Толькі іх і бачылі.
А дурэнь адзін гаспадаром зрабіўся.